*Уладзімір Верамейчык*

# КЛЯНУСЯ ПРЫПЯЦЦЮ



**Паэзія**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

ББК 84Бел7
В 31

В книге собраны лучшие стихотворения поэта, написанные за 30 лет его творческой деятельности. Все они проникнуты большой любовью к Родине, к родному полесскому краю, его народу. Значительное место в книге занимают стихи о любви, эта «вечная» тема получает у поэта своеобразные решения и повороты.

В $\frac{4702120200-071}{М\ 302(03)-88}$ 126—88

ISBN 5-340-00126-1

## З КНІГІ «ПРЫПЯЦЬ» (1973)



* * *

Я іду у блакітнае ранне жыцця,
У дзяцінства сваё залатое.
Пахне пожняй гарэлай глухая ралля,
Пахне поле крутым сырадоем.

Я іду у ружовае ранне жыцця,
У дзяцінства сваё залатое.
Пахне ступай кляновай у лыжцы куцця,
І буквар пахне фарбаю новай.

Я іду у шчаслівае ранне жыцця,
У дзяцінства сваё залатое.
Пахне сенам духмяным падушка мая,
Пахне матчына хата спакоем.

Я іду у далёкае ранне жыцця,
У дзяцінства сваё залатое...
З Васілевіч ірвецца цягнік у прасцяг,
А юнацтва ужо за спіною.

## МАЗЫРСКІ КІРМАШ

Пахне сырадоем і цыбуляю,
Агуркамі з роснае грады.
Ліпай і калодкавымі вуллямі
Пахнуць наздраватыя мяды.
На бязмене з гіраю-цаглінаю
Важыць сала хітраваты дзед.
Сонна водзяць выгнутымі спінамі
Шчупакі ў калодзежнай вадзе.
Тут патэльні з жоўтаю яечняю,
Дудкі, капялюх на галаву.
У кашах лазовых рэжуць клешнямі
Ракі вірлавокія траву.
Вось каробак з маладымі вішнямі —
Слаўная лубовая сям'я.
Падміргне гандлярачка увішная —
І за банку плоціш утрая.
Дзед з Міхалак словамі таропкімі
Прапануе яблыкі з кулак.
А пахваліш жытнікі салодкія,
То насыпле яблыкаў і так.
Тут люблю хадзіць, глядзець гадзінамі,
Слухаць гоман роднае зямлі.
І такое ўчую тут часінамі,
Што нідзе не купіш за рублі.

## ПРЫПЯЦЬ

*Станіславу Пятачэнку*

Прыплыві, падхапі і нясі мяне, Прыпяць,
Калі зноў я прыйду да тваіх берагоў,
Дай з далоняў гаючай вады тваёй выпіць,
І мне хопіць здароўя на сотні гадоў.
...Вецер сена скубе на паромах-няўклюдах,
Перад бураю Прыпяць наморшчыла твар.
Каля Юравіч голасам, поўным прастуды,
Пачынаюць грамы агалошваць абшар.
На прасторах ракі разлягаецца рэха,
Падбіраюцца лёскаты грому сюды.
Калі ў дождж рызыкнеш
Прыпяць ты пераехаць —
Поўны човен збярэш дажджавое вады.
Па калені ў пяску нараўлянскія сосны,
І не выбрацца соснам на бераг круты,
І ніколі іх шышкі у Прыпяць не плёснуць,
Калі іх не закоцяць гарэзы-вятры.
Мараць сосны: пакінуць пясчаную грыву,
На хаду распрануцца, адкінуць сукі,
А затым паляцець з залатога абрыву
І аддацца на волю цячэння ракі.
Я прашу: «Нараўлянскія сосны, жывіце!
Не шукайце нідзе прыгажэй стараны.
Кожны гук, калі ласка, сабе забярыце
З хваляў Прыпяці — вечна напятай струны.
Хай ля ног вашых стройных
грымяць крыгаходы,
Б'юцца хвалі ў чаканні знаёмых вятроў,
Карагоды шумяць і плывуць параходы
У той край, дзе знайшоў і сябе, і любоў».
Знаю, прыйдзе калісьці жыцця майго восень,
Папрашу перад смерцю сяброў дарагіх:
«Мне зрабіце труну з панадпрыпяцкіх сосен,
Каб і там для мяне шум ракі не аціх».

## КАРАЛЕВА ПАЛЕССЯ

Я Прыпяці выток і вусце,
Яе пачатак і працяг.
Яна ніколі не адпусціць
Цябе з хмурынкай у вачах.
Як дываны, лугі раскіне,
Падорыць небу сваю сінь
І рыбы на кручок накіне
На юшку царскую усім.
Раўнуюць к Прыпяці нас жонкі,
Мы ж ёю трызнім па начах.
Нам сніцца плёскат хваль гамонкіх
І вогнішча гаркавы пах.
Стагі вартуюць бераг левы,
На правым — вецер голле гне...
Плыве Палессе каралева
У сны мае, у дні мае.

* * *

На Палессі ёсць мясціна —
Барбароў,
Ды не там мая хаціна
Між бароў.
Выспяляе ранак росы
Па кустах.
І завуць да працы косы
На лугах.
Азярцо знаёмым вокам
Блісне вам.
Верасы у сотні кроках —
Быць грыбам.

Серабрыцца, ззяе Прыпяць,
Невад схне.
Не, лясных ніяк не выпіць
Чараў мне.
Збудаваць бы там хаціну
Між бароў.
На Палессі шмат мясцінак —
Барбароў.

## НОВЫ САД

Удовін сад цвіце халодным цветам,
На зрэбным голлі кветкі там ды сям,
Дажджлівае ідзе зямлёю лета —
Адкрыта завязь бурам і вятрам.
    Гаспадару, што спіць даўно на Шпрэе,
    У сны прыходзіць родны той куток:
    Дыміцца комін, мякка сонца грэе,
    У садзе — жонка, ён і іх сынок.
Сам гаспадар не бачыць і не чуе,
Што пасівела верная ўдава,
Што вецер голле ўсохлае дратуе,
Што на зямлі пажухлая трава.
    І родны сын спяшаецца здалёку
    Заехаць да матулі на дзянёк.
    І новы сад акопвае рыдлёўкай
    Ля дрэў старых зусім непадалёк.
Праходзяць вёсны... Ў кіпені малочным
Птушыныя не моўкнуць галасы.
Удовіны святлеюць крыху вочы,
Хоць больш і больш сівеюць валасы.

## ТРЭСКІ

Ты помніш, маці, ў годзе сорак пятым
Стаяў у вёсцы нашай стук і гром.
Прыйшлі з вайны вялікае салдаты,
І кожны будаваў часовы дом.
А бацька наш не змог з зямлі падняцца
І скласці нам хоць нейкі там дамок:
Застаўся ён навечна ў вечнай хаце,
І на магіле — з дзеразы вянок.
Зайздросціў я тады чаму папала.
Больш медалям, што гладзілі сябры,
А ты мяне к суседу пасылала
Па трэскі, каб нам бульбы наварыць...
Жыццё ідзе... Таўшчэзнае бярвенне,
Што дваццаць год чакала маіх рук,
Цягну на рыштаванне з захапленнем,
І зноў стаіць над вёскай гром і стук.
Жаўцеюць трэскі каля новай хаты,
І волю ты цішком даеш слязе:
На самазвале цацачным заўзята
Мой сын бабулі трэсачкі вязе.

## СОНЦУ

Сонца!
Буду я тваім матросам.
Да цябе з зялёнае зямлі
Падымуся я па промнях-тросах,
Што ў зямлю навекі ураслі.
Сонца
падымацца загадала,
Зашумелі звонкія лясы.

Зрок
адмераў, колькі да прычала,
Чуліся падтрымкі галасы.
Я лячу да сонца
не па шчасце:
Мне і на зямлі яго стае.
Аднаго баюся я:
упасці,
Не дасягшы прыстані свае.

## СЭРЦА

Малым любіў я на падлозе спаць,
Накрыўшыся старою світкай бацькі,
І пад сяннік скамечаны хаваць
Свае, вайной пакінутыя цацкі.
Пустыя гільзы, востры нож-цясак
Сляпы бінокль у шэрым футарале.
Святло ад зорак біла наўскасяк,
Я варушыўся — гільзы шаргаталі.
...Праходзіць маці ценем на сцяне,—
Мне ж сніцца луста аржанога хлеба.
На правы бок кладзе яна мяне
І шэпча: «Сэрца прыціскаць не трэба.
Шануй яго, пабачыш, падрасцеш:
Без сэрца жыць, як нам цяпер без таты,
Без сэрца не дарога, а узмеж,
А з сэрцам — ты шчаслівы і багаты».
Маленства, дзе ты? У грудзях маіх
Не камячок, а цэлы шар агністы,
Іду зямлёй, шукаю слоў сваіх
І сэрцам правяраю усё чыста.

## МОЙ ПАРНАС

Я Пегаса на прыпяцкіх травах выпасваў
І выпойваў яго жыватворнай вадой,
І палескага сонца раскошныя пасмы
Датыкаліся грывы яго залатой.
Цуглі рваў мой Пегас,
не дапяўшы Парнаса,—
З ім такое было ў спёку і ў маразы.
Паварочваў назад —
і прад мной рассцілаўся
На гарах першародны славуты Мазыр.
Ты, Мазыр,—
мой Парнас каля Прыпяці мілай,
Тут калісьці я першае слова знайшоў...
Адпачні,
мой Пегас,
я знайду яшчэ сілы
І пяшком дабрысці да мазырскіх сяброў!

## ПАЛЕСКАЯ ВАДА

Глыток вады са студні на Палессі —
І стома адлятае, нібы дым.
А нам здаецца, што ваду Алеся
Паднесла у вядзерцы залатым.
Глыток вады са студні на Палессі —
І кволы стане дужым, маладым,
І выплісне вадой жывою песня...
Адведайце ж палескае вады!



«Рушыла Прыпяць» —
Гэтай навінай
Радуюць пісьмы мяне...
Перад вачыма:
Труцца ільдзіны,
Сонца ў палонцы-акне.
Рушыла Прыпяць...
Рушылі з песняй
Воды з-пад лоз і ракіт.
Вецер-свавольнік
Подыхам веснім
Неба расчысціў блакіт.
Рушыла Прыпяць...
Сонцам абліты,
Ў раку заглядзеўся Мазыр.
Ноччу грымяць
На дарогах адкрытых
Зімніх ўцёкаў вазы.

## ЛЮДЗЯМ

Людзі! Чаго леціцё вы у космас,
Што вы шукаеце там?
Клалі б ля рэчак зямныя пракосы,
К спелым хадзілі жытам.

Людзі! Навошта яна вам, Венера?
Ззяе няхай між нябёс.
Можа,
ўзламаўшы нябесныя дзверы,
Зойдуцца сэрцы ад слёз.

Людзі! Чаго у адказ анямелі,
Ладзячы струны ракет?
Ладзілі б лепей дзецям вяселлі,
Песні пускалі у свет.

Людзі! А можа, з Венеры далёкай
Госці сабраліся к нам,
Іх мудрацы сярод зорных аблокаў
Шлях паказалі сынам?

Людзі! Я поўнасцю вас разумею:
Госця за вёскай заўжды
Бацька страчаў з ліхтаром у завею,
Ў спёку — з біклагай вады:

Госцю падасць ён кажух абагрэты,
З біклагі — вадзіцы глынуць.
Людзі! Да зорак вас не ракеты —
Шчодрыя сэрцы нясуць.

* * *

У познім сене ціха дрэмле восень.
У суме пожні — пульхнасць баразны.
У жмені зерня — пругкае калоссе.
У раннім сене — позні пах вясны.
 У познім сене ціха дрэмле восень,
 У бліндажы — далёкі гул вайны.
 Між цёмных хмараў — залатая просінь.
 У раннім сене — позні пах вясны.
У познім сене дрэмле восень чуйна,
У прымаразку — сівізна грады.
У Прыпяці маёй залатабруйнай —
Майго жыцця нязгасныя гады.

## АДНАПАЛЧАНАМ

Пацалаваўшы Сцяг наш, разышліся мы
Па гарадах і вёсачках малых,
А сэрцы — ведаю без медкамісіі —
Яшчэ жывуць на плацах страявых.
Стаяць на палігонах засакрэчаных
Мішэні нашы, скрышаныя ўшчэнт,
І лістаносцы ад каханых вечарам
Канверты нам нясуць, нясуць яшчэ.
Яшчэ грыміць над стромамі армянскімі
Салдацкай песні спрасаваны ком.
Краіну ўсю, ад Брэста да Даманскага,
Мы і ў запасе шчыра беражом.
Мы там, на службе, думамі і марамі,
У снах начных і кругаверці дня...
Сягоння сына я праводжу ў армію
І веру — будуць мір і цішыня.

## ГРУЗІНКА

Хочаш, падніму цябе высока,
Каб змагла адсюль убачыць ты,
Як ідуць па Прыпяці шырокай
Дужыя і пругкія плыты.
Хочаш, пранясу і не стамлюся
З берагоў далёкае Куры
Да зямлі зялёнай беларусаў,
Дзе шумяць адвечныя бары.
Нас вітаць трубою-берасцянкай
Выйдзе з лесу юная вясна
І, укрыўшы кветкамі палянку,
Паднясе вясельнага віна.

Выйдзе маці на парог хацінкі,
Ціха войкне: «Родны мой сынок!..»
Правядзе да покуці грузінку
І пасадзіць ля сваіх дачок.
Матчынае радасці слязінкі
Будзе бачыць мой палескі край.
...Слаўная, харошая грузінка!
Будзе гэтак, толькі пачакай.

## РОДНЫ ДОМ

У Мінску я... З дарогі, але стому
Ганю хутчэй, як сон цяжкі з павек.
Бягу на плошчу Леніна да дома,
З якім з'яднаўся некалі навек.

І замірае сэрца у здранцвенні,
І чым бліжэй туды — павольней крок.
Тады здаецца: цішыню-зняменне
Трымаеш ты ў руках, нібы клубок.

Зрывае сэрца весела стоп-краны,
Каб сцішыць сум і даць пачуццям ход.
Па калідоры ў шумным караване
Плывеш і ты... Як у той першы год.

Даўно апалі белыя пялёсткі
Маёй студэнцкай першае вясны,
Ды што ні крок — мігцяцца згадкі-блёсткі,
І зноў удаль нясуць мяне чаўны.

Напяўся ветразь — у жыццёвым моры
Прапаў і след студэнцкай талакі,

Адсюль глядзіць з нас кожны у прасторы,
Нібы у часе рэйду маракі.

Глядзіць, заняты важнаю работай,
І сніць наш даўні вырай па начах.
А час праб'е, сатром крупінку поту,
Сюды ляцім на сталасці чаўнах.

* * *

Дацвілі пялёсткі нечае тугі...
*П. Трус*

Снягі, снягі... На Прыпяці снягі,
Такіх ніколі не было снягоў!
Цвітуць пялёсткі даўняе тугі,
А Прыпяць не выходзіць з берагоў.
Мне трэба тыя, з ветрам, мурагі,
Дзе першы раз сустрэліся з табой.
Цвітуць пялёсткі даўняе тугі
Над Прыпяццю марознай, нада мной.
Вясна, твае зялёныя сцягі
Узвеяць я, няўрымслівы, гатоў.
Цвітуць пялёсткі даўняе тугі —
Густая завязь колішніх гадоў.

* * *

А першы снег, як першае каханне,
Шчасліва акрыляе, нібы смех.
Зямля у першароднасці убрання,
І чысціню крануць такую — грэх.

А першы снег — нязгаданая ростань
З лістотай, жвірам, чэзлаю травой.
Было складана, а цяпер так проста,
Як у мяне, каханая, з табой.
У першы снег далёка да завеі.
Агонь маёй любві яшчэ не згас,
Хоць без цябе я сэрцам халадзею,
І ты адна знаходзішся ў снягах.

## ПАМЯЦІ СЯСТРЫ

Чуеш,
сястра,
як далёка скрыгочуць
Цёмнаю ноччу на рэках ільды.
Бачыш, вясна свае светлыя вочы
Свету паказвае з сіняй вады.
Чуеш, нястомна шумяць вершаліны
Дрэў маладых ля мазырскай шашы.
Бачыш, як сонечны промень пакінуў
Зімні прытулак і хмары прашыў.
Бачыш, халоднае лісце брусніцы
Зноў заблішчэла між чорных снягоў.
Хочацца к роднай зямлі прытуліцца,
Рукі пагрэць ля начлежных кастроў.
Чуеш, скрыгочуць на рэках далёкіх
Злыя ільды ад цямна да відна,
Бачыш, цяплеюць у небе аблокі,
Значыць,
твая наступае вясна.

## БАЛАДА ПРА МАЦІ І СЫНОЎ

Сыны вякоў,
Эпох і пакаленняў
З лучынай смольнай,
З дымным ліхтаром
Спускаліся ў зямныя сутарэнні
Крышыць руду жалезную
Кайлом.
З глыбінь зямных
У шапках і у жменях
Руду наверх стараліся насіць,
Каб выплавіць з яе
Метал адменны
І помнік маці
На вякі адліць.
Расце гара
Жалезная да неба,
Сыны ўжо і форму адлілі,
Сышліся маці,
Глянулі: «Не трэба!
Зрабіце лепш чыгунку
На зямлі».
Сыны зямлю
Чыгункай сперазалі,
Пайшлі у лес,
Звалілі сотні дрэў,
Каб выстругаць
Званчэйшыя цымбалы,
Каб гімн для маці у вяках гучэў.
Сышліся маці
З цэлае планеты
І нават прысаромілі сыноў:
«Няма у гімнах
Спешнае патрэбы.

Зрабіце лепей
Тысячы дамоў».
    Сыны зямлю
    Уставілі дамамі.
    Пайшлі аблог
    Варочаць з краю ў край.
    Зямля сынам
    Аддзячыла жытамі —
    Нясуць матулям лепшы каравай.
А тыя хлеб
На роўныя кавалкі
Падзеляць ім
Для будучых дарог.
І з бласлаўленнем,
Што мы знаем змалку,
Вядуць сыноў націху за парог.
    Сыны ужо
    Не ведаюць спакою:
    «Няма дарункаў
    Маці на Зямлі».
Шукаюць іх за зорнаю градою,
Туды свае кіруюць
Караблі.
А маці белых,
Жоўтых,
        чарнаскурых
Ім доўга з-пад рукі
Глядзяць услед:
«Няхай мінуць вас
Беды і віхуры
І на Зямлі
І ля другіх планет».

## СЯБРУ-ФІЛОЛАГУ

*Алегу Лойку*

Ад гарадскіх трывог мікстуру
Ў аптэцы паспрабуй вазьмі!
Давай ізноў махнём у Тураў,
Пабудзем дзень-другі князьмі.
Далоў прафесарскія ноткі,
Усім палемікам адбой!
Нам трэба сонца, Прыпяць, лодка
І неразгаданы спакой.
Ужо за першай Перадоляй —
Магілай сквапных чужаніц —
Адчуем еднасць на прыволлі
Драўляных хат і камяніц.
...Акацый пыльнае сутонне.
Стаім на Замкавай гары.
Раздольна бульбяным загонам
На даўнім княжацкім двары!
Жыцця забудзем «еры», «яці» —
У лодку, брат, хутчэй залазь.
Адзін рыбак казаў: ля гаці
Бярэцца крутабокі язь.
Узрэжам Прыпяці гарбіну,
Прынаду высыплем язям.
І вірыстай ракі даніна
Належаць будзе толькі нам!
Як пахне сенная падушка!
Цягні рыбацкі правіянт...
...Кірыла Тураўскі з-за юшкі
Закрыў — ты чуеш? — фаліянт...

## ВЕРАСЫ

Бягуць гады, а мне здаецца: ўчора
Тваёй рукой я песціў валасы
На лепельскіх успененых азёрах,
Дзе побач палымнелі верасы.
    Нескладная мая біялагіня,
    Нескладны я, філфакаўскі паэт.
    Гады прайшлі. У цёмных хвалях гіне
    Няўмела мною створаны партрэт.
Але нічога не забыць дазвання,
Твае сягоння пешчу валасы...
На узбярэжжах нашага кахання
Гараць агнём блакітным верасы.

## ПРА АПОШНЯЕ

Я хлеба апошнюю лусту свайго
Пашлю толькі маці.
Калі застанецца апошні рубель,
Аддам я студэнту.
Закрутку апошнюю скурым з табой,
Надзейны таварыш.
А з сябрам апошнюю чарку віна
Падзелім пароўну.
Калі застанецца апошні патрон,
Па ворагу стрэлю.
Апошнюю сцерці слязінку хачу
Я з твару сястрыцы.
Апошні дарыць пацалунак хачу
Любімай жанчыне.
Пракляццем апошнім таго пракляну,
Хто здрадзіў Радзіме.

Параду апошнюю даць я хачу
Любімаму сыну.
У дзень у апошні дзівіцца хачу
На яснае сонца.
Апошнюю рэчку хачу пераплыць
Не Лету, а Прыпяць.

## РАЗВІТАННЕ З АРМЕНІЯЙ

Адыходзіць цягнік з Ерэвана...
Абдымаю прыціхлых сяброў.
Дайце, хлопцы,
У вочы Арменіі глянуць,
Што азёрамі ззяюць між горных хрыбтоў.
Дайце, хлопцы, далоняй салдата
Зачарпнуць мне вады з ручаёў.
Вы праводзіце сёння дахаты
Мяне з краю
Вяршынь і садоў.
Дык бывай, крутагорая веліч!
Крыкнуць хочацца гэткай парой:
Павязу я з сабой
Да маіх дарагіх Васілевіч
Шчасце мужнай сустрэчы з табой.

## ЧАКАННЕ

Я хачу у Мінск у дождж прыехаць
У правінцыяльным пінжаку.
Тут даўно зязюля адкувала
Ўсе мае студэнцкія «ку-ку».

А тады быў дождж ліпнёва-цёплы,
Бурбалкамі пеніўся перон.
Мы б з табой да нітачкі прамоклі,
Каб не твой стракаты парасон.
Ты шаптала:
«Мілы мой настаўнік!
Хутка будзем разам, назаўжды...»
Я цябе з далёкай ціхай вёскі
Выглядаю доўгія гады.
Толькі ў пісьмах:
«Слаўны мой настаўнік!
Ты мяне чакай, чакай, чакай...»
Верасень цябе не бачыць школьны,
А мяне не адпускае май.
Я хачу у Мінск у дождж прыехаць,
Каб шумлівы пеніўся перон.
...Можа, праз гады мне успамінам
Твой мільгне стракаты парасон.

## КАМСАМОЛЬСКАЯ ВУЛІЦА

Пабываўшы на Неўскім, Крашчаціку,
Да цябе прылятаю я.
І лічу за вялікае шчасце я,
Што сышлася тут клінам зямля.
Ты не з аркаю Трыумфальнаю,
Без тралейбуснай мітусні.
Самай першаю і цэнтральнаю
Пралягла ты ў маім жыцці.
Ўсё, што трэба ў гады прывольныя,
Без чаго не пражыць юнаком,
Ты ўмяшчала: і спрэчкі школьныя,
Хваляванні сустрэч і райком.

І відаць, таму, што з ахвотаю
Па табе я хадзіў пяшком,
Парадніў на прызыве з пяхотаю
Першы мой у жыцці ваенком.
Хоць прайшоў я дарогі дальнія,
Бачыў вуліцы — што прыбой.
Ты у марах маіх — цэнтральная.
Ты — мая, я — нязменна твой.

* * *

*Генадзю Бураўкіну*

Казарма — факультэт братэрскіх моў,
Я стаў праз месяц добрым паліглотам:
«Салям» [1] і «гамарджоба» [2], «будь здоров»
Завучвала зялёная пяхота.
Калі ў курылцы ранняю вясной
Я выдыхнуў: «Вунь качкі паляцелі!» —
За мной пайшлі грузіны талакой:
Па-беларуску завучыць хацелі.
А качкі... то не з факультэта моў,
З якога, я загадваць не бяруся.
Відаць, з маіх трызненняў, мар і сноў
Ляцелі качкі к рэкам Беларусі.
Я там, сярод армянскіх горных стром,
Свой факультэт закончыў музыкальны,
Я зычных слоў днявальнага:
«Пад'ём!
Трывога!» —
Зведаў мужную танальнасць.

[1] Салям — добры дзень *(татарск.)*.
[2] Гамарджоба — добры дзень *(грузінск.)*.

«Дальневосточную» вячэрняю парой
Спявалі на прагулках так натхнёна,
Што старшына, паперш чым даць «адбой»,
Хваліў сваіх харыстаў у пагонах.
З казармы з аўтаматам за спіной
Ішоў я у глухія каравулы,
Каб на Радзіме ў Прыпяці маёй
Вянкі дзяўчат-зямлячак не танулі.
...Твае лісты, прапахлыя смалой
І полацкай надрэчнаю бярозай,
Чытаў я у казарме. І парой
На вочы самі набягалі слёзы.

## НАВАЛЬНІЦА

Над вёскай навальніцы зноў грукочуць.
На выпасах гуляюць перуны.
Старыя азіраюцца на покуць
І закрываюць шчыльна каміны.
А я душою прагну навальніцы:
Хутчэй туды, дзе носяцца вятры.
Звіняць зямлі дрыготкія званіцы,
Разбуджаныя громам угары.
Хутчэй туды, дзе стыне раздарожжа,
Дзе жыта на дарогу напаўзло,
Дзе кожны колас аб табе варожыць,
Глынуўшы ветру з горкаю смалой.
У хмарах вецер выраўняў пракосы,
Шапочуць травы, што ляжалі ніц...
І марыць аб табе, залатакосай,
Лягчэй пад гром вясновых навальніц.

## ТРЫВОЖНЫЯ ЗВАНЫ

Хатынь!
Твае трывожныя званы
Да Прыпяці штохвілі далятаюць,
І лёгкія рыбацкія чаўны
На быстрыні ў жалобе заміраюць.
О Прыпяць! Ад захопнікаў ліхіх
Аббегла б ты Хатынь дзевятым валам,
Ды ад агню на берагах сваіх
Сама тады амаль перасыхала.
Плыве сюды туга з каменных стэл —
І сосны-стэлы над ракой у скрусе...
Хатынь!
Ты вечны беларускі стрэл
У тых, хто прагнуў смерці Беларусі.

## ЦІШЫНЯ

Я расклаў цяпельца. Пада мной
Паўкапы духмянае атавы.
Млечны Шлях кідае па адной
Зоркі у надпрыпяцкія травы.
Зашыпяць яны, і лёгкі пар
Узнікае там, дзе згасла зорка.
Ён паўзе, казыча злёгку твар,
Ахінае ціхія пагоркі.
Непрыкметна Прыпяць спаць лягла
Спрацаванай, стомленай жанчынай.
Каб яна спакойна спаць магла,
З туманоў хтось коўдру ёй накінуў.

Рыбакі за дальняю лукой
Цягнуць песню з глыбачэзнай тоні.
Праз хвіліну змоўклі, і спакой
Падае з нябеснага сутоння.
Сон ужо навіс над галавой.
Цішыня такая, што, здаецца,
Чую, як па кропельцы малой
Упадае Прыпяць мне у сэрца.

## ШЧАСЦЕ

Шчасце... Не знаем ніколі якое,
Дзе спачывае яно.
Шчасце, магчыма, жыццё маладое,
Можа, старое віно?
Шчасце, магчыма, гладзіць да рання
Мілай сваёй валасы.
Шчасце — сустрэча пасля развітання.
Шчасце — гарэзлівы сын.
Шчасце бывае ў творчым гарэнні.
Сэрца у ім спапялі.
Шчасце сапраўднае ў чыстым сумленні
Перад усім на Зямлі.

## ПЕРШАЎКОС

Майго жыцця мурожны поплаў
Яшчэ цвіце, як маііскі сад.
Маіх дажджоў тугія кроплі
Яшчэ не засцяць далягляд.

Яшчэ каса звініць удала
У буйным ліпені жыцця,
Я на траве ляжу прывялай,
Першаўкос спраўляю я.

Майго жыцця бясконцы поплаў,
З гадамі ты інакшым стаў.
Гляджу: паміж аблеглых копаў —
Празрысты халадок атаў.

## РАДАСЦЬ

Палацы адкрываў я, гідрастанцыі,
Істужкі рэзаў цыркулем нажніц,
Я напаўняўся, як пратуберанцамі,
Калі істужка ападала ўніз.
Я любаваўся ўзведзенымі домнамі,
Дзяды хвалілі: «Ах, які хлапец!..»
І ўсё ж, прызнацца, дык найлепей помню я,
Як адкрывалі па вясне капец.
Дзён пяць у хаце мы жылі размовамі,
Якія маці стрымана вяла:
«Капец адкрыем — будзе ўсё па-новаму...
Яшчэ пара, па-мойму, не прыйшла...»
І час прабіў: рыдлёўкаю іржаваю
Зняла зямлю матуля і труху.
Мы урачыста бульбу заляжалую
Няслі ў начоўках, нібы у пуху.
І дно капца амаль што як праз рэшата
Прасеялі праз пальцы мы знарок.
І кожнага лічылі ледзь не грэшнікам,
Калі знайсці ён бульбіну не змог.
О радасці святыя сорак сёмага!

Саган напоўнен быў тады з гарой.
Камса з сельпо — жаданая, знаёмая
У плеценай кашоўцы смаляной!
І мы за кніжкі браліся з ахвотаю,
Экзамены здавалі ўсе на «пяць».
Мы ведалі: вялікаю работаю
Такую радасць трэба апраўдаць.

## ПАЭЗІЯ

Паэзія!
Табе жыццём даручана
Ніколі адпачынку не чакаць.
З табою назаўсёды я заручаны:
Хачу змагацца, верыць і кахаць.
Паэзія!
Крышы усё пачварнае
І любасць апантаным перадай.
Будзь светлаю, як Прыпяць уладарная,
На дно чаўна свой ветразь не складай.

# *З КНІГІ «ЯСНАСЦЬ» (1978)*



## ФОТАКАРТКА 3 НА 4

Не выбіраў
Ніякіх поз,
Глядзеў
У зрэнку апарата.
Я ведаў:
Вецер і мароз
За гэты здымак
Будуць платай.
Я злом
Правераны на злом,
Мне з карткаю
Было крылата:

Нёс,
Прастакутную, ў райком
І сведчыў ёю
Чын салдата.

Са сціплай
Не чакай пасад,
Яна прымае
Позірк шчыры,
Але шырокі далягляд
Адкрыў памер
Тры на чатыры.

Калі ўсёпераможны час
Стварыць захоча з нас партрэты,
Ён возьме строгі наш анфас
З другой старонкі партбілетаў.

* * *

Не дай мне бог банкетнай смерці
Сярод закусак і віна.
А прыйдзе —
Ціхенька адмерце
З бярозы квасу.
І адна

З усіх,
Каго любіў між вамі,
Празрысты кубак паднясе.
Я вып'ю лёгкімі глыткамі
І прашапчу:
Бывайце... ўсе...

## БАЛАДА ПРА ШПАЛЫ

Грымелі песняй
Шпалы ў сорак пятым,
Развучанаю некалі ў бары.
Дамоў з вайны
Вярталіся салдаты,
Дзе іх чакалі
Кельмы й тапары.

А я, малеча,
Ў тым віхурным часе
Ля папялішча корпаўся ў траве.
Са шпал,
Што апынуліся ў запасе,
Злажылі хату маці-удаве.

Спяліся шпалы
У вянках надзейна:
Яны ж былі сяброўкі па вайне.
І я занятак меў:
Штыком трафейным
Асколкі выкалупваў у сцяне.

А вечарамі
Пры святле газоўкі
На ложку,
Пакарэжаным агнём,
Я чуў і цераз тоўстую тынкоўку,
Як грозным гулам
Поўніцца наш дом.

Чакалі гукі выйсця,
Не змаўкалі,
Стагналі гукі
Ў кожным бервяне,

Яны мяне
Ў вялікі свет гукалі,
І клікаў бацька —
З фота на сцяне...

На ўсё жыццё мне
З тых часоў запала:
Адчаю грукат
І нястачы шал.
І я таму гатовы
Легчы шпалай,
Каб болей
Хатаў не было са шпал.

## МАНГОЛЬСКІЯ КОНІ

Ужо вайна на Захад адплывала,
Каб мы хутчэй разбэрсалі бяду,
Калгасу на разжытак пакідала
Мангольскіх хворых коней чараду.

Аслаблым бабам — гэткая падмога!
Яны каняг выпойвалі з рукі,
Бо ўбітыя калгасныя аблогі
Паказвалі камені-кулакі.

Ачуньвалі далёкіх стэпаў дзеці,
Дужэла нізкарослае цягло,
Далей ад голаду і ліхалеццяя
Адвозіла палескае сяло.

І мурагі, што выспелі на мінах,
Для іх касілі ўсе,

Хто толькі мог,
І не адной сасновай дамавінай
Вяршылі бабы гарапашны стог.

Было іх дзесяць,
Дзевяць,
Потым восем:
Як людзі,
Паміралі ў баразне.
Як зараз помню:
Усім сялом галосім,
Калі каня
Раптоўна смерць прымне...

## БУЛЬБА

Бывала,
Маці бульбу высыпае,
Адцэджаную толькі,
На ручнік:
І цяжка радасці
Стрымаць ускрык,
І столь густая пара падымае.

Мы апякалі рукі,
Потым горлы —
Хутчэй студзілі кіслым малаком,
А маці
Усміхалася цішком,
Смятаны макавай давала з цёрла.

А зараз між талеркаю і мною
Паўстанкам белым

Сподачак стаіць,
Відэлец зіхкі ціхенька звініць,
Здаецца ежа нейкаю маною.

«Трымай настрой!» —
Заўсёды гаварыла,
А мой настрой,
Матуля,— ты адна.
...Сяджу адзін,
Сумую давідна,
І стыне бульба,
Што не ты зварыла.

## БАЛАДА ПРА ВАДУ

Вясна і голад.
Сорак пяты.
А Перамога — на парог.
Гучала дзіўна
Слова «хата» —
Усе жылі хто дзе як мог.

Вакол адны зямлянкі-норы
Ці проста з жэрдак буданы.
Ды паўтаралі ўсе без зморы:
«Няма, няма,
Няма вайны!»

Няма!
Хай больш яе не будзе,
А зараз радасці — прыпол.
Давайце адсвяткуем, людзі,
Цягніце ўсё, што ёсць,
На стол.

А што цягнуць?!
І стол кульгавы
Адзін на вёсачку знайшлі,
Тады прысмакі і прыправы
І ў думках нават не былі.

Усе жылі навідавоку,
Прывыклі разам гаравацць,
І нешта ў схованках далёкіх
Знайшлі
Сябе пачаставаць.

Знайшлі,
А без гарэлкі свята,
Як маладая без фаты...
Няма гарэлачкі праклятай —
Давайце кацялок вады!

І з кацялка пайшла па чарках,
І над сталом —
Латунны чок,
І ў ніцых Мар'ях,
Белых Варках
Як бы ажыў таемны ток.

Зачырванелі ўраз удовы
Ад той святой як ёсць вады.
«Дык будзем, Ганначка, здаровы!»,
«За нашых дзетак!»
І тады
Спявалі песні,
Як і трэба,
Калі гарэлка на стале,
Калі ёсць хлеб
І ёсць да хлеба
І побач муж,
Які нальe.

Мужоў няма —
Ёсць пахаронкі,
На ўвесь калгас —
Трафейны конь,
А заўтра зноў
Цягаць баронкі
І лямак адчуваць агонь.

А кацялок амаль парожні,
Пяюць пра радасць і бяду...
...Яшчэ і зараз
Асцярожна
Я п'ю звычайную ваду.

## ЯСНАСЦЬ

Вясна мая за дальняю гарою,
Вясна мая за Прыпяццю-ракою
Звініць, звініць.
Я жыць яшчэ як быццам пачынаю
І сто дарог яшчэ ў руках трымаю,
А ёсць адна.
Яшчэ, здаецца, не было кахання,
І не даваў нікому абяцанняў,
Было святло!
Ужо стаю на строгім перавале,
Адкуль адкрыты да драбніцаў далі
Ва ўсе канцы.
Даўно няма разгубленасці прошлай,
А столькі многа яснасці харошай
Для спраў маіх.
І салаўя прашу пад юнай вішняй:

Мяне парадуй песняй несуцішнай,
Твой спеў люблю!
Да цягніка бягу па цёплых шпалах:
Вязі туды, дзе дужых покуль мала,
Вязі, вязі!
Усіх сяброў са свету запрашаю:
Сягоння свята яснасці спраўляю,
Яе адной!
Мо вы даўно яе пазабывалі,
А мы вось толькі з ёй пасябравалі.
І — назаўжды!

## КАСМАНАЎТУ-БЕЛАРУСУ

З асмужаных прастораў Беларусі
Глядзім мы ўсе ў касмічны недасяг,
Туды,
Куды
І з песень нашых гусі
Не рызыкнулі
Скіраваць свой шлях.

А ён ляціць,
Ён з зоркамі гаворыць,
Сам зорка —
Яснавокі беларус.
І сочаць бор надбугскі
І азёры,
Мякчэе ўмомант
Мурагу абрус.

Яго ж
У кожнай беларускай хаце
Прывецяць,

Кут пачэсны адвядуць,
І сотні тысяч беларускіх маці
Яго імя
Сваім сынам дадуць.

Спакойны ты ў касмічнай завірусе,
За караблём —
Як за санямі дым.
Ляці, браток!
Шчаслівa, беларусе!
З табой і мы, ўтрапёныя,
Ляцім...

## 9 ЖНІЎНЯ 1976 ГОДА

*Памяці І. П. Мележа*

Тым жніўнем каля Юравіч адчайна
За ноч адну
Зжаўцелі паплавы,
І неяк раптам
У палях бяскрайніх
Засумавалі гуртам жуўравы.

Ля Глінішчаў
На дубе забуцвелым
Буслы заклекаталі у гняздзе...
І ўсім відаць:
Васіль асірацелы
За сіратою Ганнаю ідзе.

## МІХАЛКІ, ПЯТЫ КЛАС

Слава пра Міхалкі
Светам крочыць:
Нафтабуд-гігант ва ўсёй красе.
А калі на міг
Прымружу вочы,
Бачу луг у маладой расе.

Над Слабодкай каміны дымуюць,
Навасёлкі распускаюць бэз,
Па Купрэеўцы вазы прастуюць
За Міцькі
У недалёкі лес.

Кустаўніца гляне сарамліва
З-за кустоў міхалкаўцам у твар...
...Я ў Міхалках колісь жыў шчасліва,
На Слабодцы год кватараваў,

Выкладаў у школе дзецям спевы
(Хай жа ім спяваецца й цяпер).
Дзе вы зараз, хлапчаняткі,
Дзе вы?
Дзякуй вам
За шчыры ваш давер!

Знаю,
Рыштаванні Нафтабуда
Сталі песняй новаю для вас,
Стаў даўно
Рабочым моцным людам
Клас мой мілы.
Ён рабочы клас!

## СВЯТЛО ПАЛЕССЯ

Ужо даўно
Святло прагнала ноч,
Пра ноч
Зусім забылі на Палессі.
Святлом заліта ўсё,
Куды ні кроч,—
Нафтавікі свяцільнікі узнеслі.

Гарыць святло
За Рэчыцай наўсцяж,
І высветлена кожная дарога.
Ажурных вышак
Пачалі мантаж —
І новыя асвецяцца разлогі.

Няхай у нас
Яшчэ не Саматлор,
Але ж расхарашылася Палессе,
Калі фантаны б'юць
Да самых зор,
Калі нафтавікі заводзяць песні.

Стрыножаная нафта б'е чалом
Зямлі маёй,
А будзе так навекі...
Пішу без лямпы за сваім сталом:
Што мы —
«Палешукі... і чалавекі».

## ХРАМ ЮНАЦТВА

Юнацтва храм —
Далёкі горад,
Дзе ўзімку чэргі ля кіно,
Дзе летам пляж,
Як каля мора...
Я там не быў даўным-даўно.
Юнацтва храм —
Вось тая вулка
З прыбітым пылам, як сукно,
Дзе сэрца білася так гулка,—
Я там не быў даўным-даўно.
Юнацтва храм —
Дом ля акацый,
Адно на вулачку акно,
А ты не ўмела цалавацца,—
Я там не быў даўным-даўно.
Юнацтва храм —
Твая святліца,
Яе святло мне так відно...
Туды лячу я despite памаліцца
І памыліцца... Заадно...

## ЦЕПЛАХОДЫ «ЯНКА КУПАЛА» І «ЯКУБ КОЛАС» НА ПРЫПЯЦІ

Прыпяць святочная.
Хвалі прыбрала.
З-за паваротаў чуецца голас:
Плыве з Мазыра «Янка Купала»,
З Пінска гукае «Якуб Колас».
Сцяг беларускі.

Сонейка ўстала.
Добрай сустрэчы
Радасны голас:
«Хутка вярнуся»,—
Кажа Купала,
«Тут сустракаемся»,—
Згоду даў Колас.

* * *

Што было, што будзе
І чым сэрца супакоіцца —
Варажыла мне цыганка ў Мазыры...
Што было? —
Гадоў гарачых конніца
Раскапыціла юнацкія кастры.

Будзе што? — А ўсё,
Што маладосць мая намеціла,
Правадамі тэлеграфаў прагула:
Гарадамі пусткі парасквецяцца,
Ў край халодны
Прынясу цяпла.

Не мані, цыганка,
Быццам сэрца супакоіцца:
Картам і табе
Не веру я даўно.
Бо калі дарога
Сэрцу мроіцца,
То не супакоіцца яно!

## НА БЕРАЗЕ ПРЫПЯЦІ

За блізкай Нароўляй зарніцы,
А тут —
Разнатраўе лугоў.
Далёка заснулі сталіцы,
А тут —
Мнагадумнасць дубоў.

Буксіраў начных вуркатанне,
І бакенаў цьмяны ланцуг.
Губляюцца ў сінім тумане
Дубы,
Азярыны
І луг.

Датлела ў руцэ цыгарэта,
Я чую пытанне — адказ:
— Як доўга працягнецца гэта?
— Для кожнага ўсё ў першы раз!

## ПЕСНЯ

Расстацца, помніш,
Выпала з табою,
Я скіраваў вяслом за небакрай,
А ты махала мне рукою
Над апусцелаю гарою:
Бывай, ты вернешся, бывай!

О мазыранка,
Мая заранка,
Бывай, вярнуся я, бывай!

У цеплыні
Далёкага прыбою
Шукаў луску
Палескіх родных хваль
І бачыў я,
Што пад гарою
Стаіш ты снежнаю парою,
Стаіш адна,
Глядзіш удаль.

О мазыранка,
Мая заранка,
Стаіш адна, глядзіш удаль.

Дзе б я ні быў,
Не ведаў я спакою,
Мне сніліся:
Мазырскі светлы край
І ты з узнятаю рукою
Пад апусцелаю гарою —
Мая любоў
І мой адчай.

О мазыранка,
Мая заранка,
Мая любоў
І мой адчай...

* * *

Забі за мною браму пекла,
На дно марское кінь ключы,
Ды ад маёй любові светлай
Табе нікуды не ўцячы.

Смалу няхай на мне там возяць,
Ці буду карчаваць карчы,
Але я помню і ў знямозе:
Табе нікуды не ўцячы.

І на любой змагу патэльні
Стаяць.
Маўчы,
маўчы,
маўчы!
Але ад гэтых слоў маіх пякельных
Табе нікуды не ўцячы!

* * *

Жыве вайна
У памяці народнай
Суровай строгасцю
Дагледжаных магіл,
Жыве старонкаю свабоднай —
Яе паліў,
Ды не спаліў тратыл.

Жыве вайна
І яснасцю анкеты,
Святочнасцю бліскучых медалёў,
Жыве
Глабальнасцю ракеты
І насцярожанасцю ўдоў.

Жыве вайна ў пажоўклых пахаванках...
А людзі ўсё ж
Надзеяю жывуць...

## ЛЯ ДРЭВА КЛІМУКА
## Ў СОЧЫНСКІМ ПАРКУ

Стракоча касілка
У парку «Рыўера»,
Пад «бокс» падстрыгаюць
Кудлаты газон.
Ідзе сенакос.
Я стаю і не веру:
Як быццам над Прыпяццю кос пераразвон.

Маторчык сакоча,
Травы на карову
З «Рыўеры», як тут ні старайся,— не ўзяць,
Але ж і настрой у курортнікаў новы:
Знялі акуляры,
Стаяць і глядзяць.

Таму на мацэсту,
Таму на уколы,
А гэтай спяшацца пад сонца на пляж.
Мне ж сэрца дыктуе з усмешкай вясёлай:
Ты сена зграбі,
Пад капою прыляж —

А зараз над Прыпяццю
Вольна пакошам!
І хворага сэрца забудзецца стук,
Бо вуха казыча
Магноліі пошум,
Якую саджаў тут нядаўна Клімук...

## АРМІІ

Клянуся зноў
У вернасці табе,
Хоць ты з мяне
Прысягу не знімала,
І твой гарніст
На срэбранай трубе
Пад'ём у шэсць іграе, як бывала.

Як і раней,
Я лёгкі на пад'ём
(Тваіх старшын работа не прапала),
Падцягнуты
Вярнуўся ў родны дом,
Твайго хапае
Гарту і запалу.

У нашых жылах
Твой жалезны спрыт —
Кіпіць ля домнаў,
У палях работа.
Я не ўяўляю
Радасны блакіт,
Не мыслю
Без упартасці пяхоты.

Ты хмурышся
Надброўямі ракет,
Калі заўважыш дзе
Фашыстаў зграю.
Я свой ваенны,
З зоркаю,
Білет
Тады бліжэй
Да сэрца прыціскаю.

Не спяць
Твае радары і ўначы,
Да акваторый
Шалясцяць ракеты.
Ты мір трымаеш
На адным плячы,
А на другім —
Надзеі ўсяго свету.

## СЛАВЕЧНА

Буксіраў ты не бачыла і ў вочы,
Бо па плячы табе
Адны чаўны.
Калі хто сетку пацягаць захоча,
То варта толькі падкасаць штаны.

І праз ваду
Жаўцеюць перамелы,
Малькоў пужлівых
Ходзяць табункі,
Паклаўшы косы,
Мыюць смела цела
Па вечарах
Стамлёныя дзядзькі.

Калі ляцець збяруся
Шляхам Млечным,
Найперш,
Чым старт абвесцяць караблю,
Тваёй вады,
Маленькая Славечна,
Паўнюткі тэрмас раніцаю налью.

А з вышыні
Пазнаю без памылкі:
На выгляд непрыкметная сабой,
Пульсуеш ты, Славечна,
Сіняй жылкай
На скроні Беларусі дарагой.

Мяне захопіць
Зорнае памкненне,
На зорнай быстрыні
Глухіх віроў
Зямлі далёкай
Знікне прыцягненне,
Але не знікне
Да яе любоў.

І калі ў сэрцы
Стануць перабоі
На вышыні
Калючы знак даваць,
Тваёй вады
Халоднае, святое
Дазволь, Славечна,
Кубак паспытаць.

Цудоўна ў вашым акружэнні, зоркі,
Ды вабіць сэрца
Родны далягляд...
У тэрмасе вады пакіну
Столькі,
Каб да Славечны
Прыляцець назад.



Штодзень дазволь
У пушчах заблудзіцца,
Пакратаць з дрэва кожначы лісток
І з кожнай
перапоўненай крыніцы
Зрабіць адзін глыток.

Дазволь, дазволь!
Калі ж такога права
Не заслужыў...
то буду я прасіць:
Пасля дажджу з любой альхі каравай
Дазволь
Расінкі рэдкія лавіць...

## САЖАЛКА

Рабочыя штодня з цябе здымалі
Таўстыя глыбы сіняга ільду,
А ты за ноч
Таўсцейшым абрастала,
Хаваючы
І тайну і ваду.

Бліскучыя кавалкі рафінаду,
Здаецца,
Будуць без канца ўсплываць.
Каля цябе,
Халодная прынада,
Маўкліва мог
Гадзінамі стаяць.

Вось пласт апошні, тонкі,
Узарваны:
Твань бачу
І абломак памяла...
Праходжу ля цябе расчаравана —
А ты на дне
Нячыстая была...

## ГУСІНАЕ ПЯРО

Там, дзе край
Зялёнай Беларусі,
На заломе Прыпяці-ракі
Закрычалі развітальна гусі:
«Што ж... да пабачэння,
Землякі!»

І пяро,
Што на руку скружыла
З паднябеснай горкай вышыні,
Кроў маю хутчэй пагнала ў жылах,
Сум падаў свой голас
З цішыні.

Між старонак, белай і зялёнай,
Кнігі недапісанай маёй
Пакладу пяро,
Як забарону
Датыкацца да яе зімой.

Дачакаюся гусей прылёту,
Крыгалому на маёй рацэ.
Вось тады і сяду за работу —
Ажыве тады пяро ў руцэ.

Пагалублю і на падаконнік
Пакладу у асмялелы бэз,
Адгарну зялёную старонку:
Час у ёй шуміць,
Як весні лес...

## СОН

Мне ў Сочы,
На вуліцы Руж,
Прыснілася родная вёска:
Стагі варухлівыя груш,
Тыноў заімшэлых палоска.

І мроіцца мне:
Басанож
Іду муравой зіхатлівай,
Нядаўна выгульваўся дождж —
І свет
Пад вясёлкай шчаслівай.
Каровы ідуць на папас,
Пастух на ўсю вёску грукоча...
Забыў, нібы ў казцы, якраз,
Што я не на Прыпяці —
Ў Сочы.

У дзверы пагрукаю сну
Далёкаму,
З пахам жывіцы.
У матчынай хаце засну —
Хай вуліца Руж
Мне прысніцца...

## НОВЫ ТРАТУАР

Запахла ў Васілевічах гудронам,
Казыча нос распаранай смалой,
Кіпіць смала ў старых катлах шалёна,
Кіпіць смала
Пад ліпай векавой.

Яшчэ шнурамі значаць тратуары,
Яшчэ гладзілкі
Ззяюць чысцінёй,
А мы,
Ужо не маладая пара,
Сюды прыходзім
Восеньскай парой.

Каб ты была Алёнкай-чараўніцай,
А я тваім Іванкам-прасцячком,
І стаўся б цуд:
Ты стала б вучаніцай,
А я з мужчыны —
Ціхім юнаком.

Цябе б узяў за рукі асцярожна,
Па Камсамольскай,
Млеючы, павёў,
Забыўшы ўраз,
Што так рабіць няможна
І што дырэктар выкліча бацькоў.

А тратуара выгнутыя дошкі
Вялі б да ночы дружна:
«Хлоп-чырык».
Тваю рамантаваў бы
Басаножку,
Што наступіла
На нахабны цвік.

Але ў дарослых
Казак не бывае:
Ты без мяне калісьці тут жыла...
Смала густая
Глуха адкіпае,
Яе грабуць лапатамі з катла.

Яе кладуць рабочыя тудою,
Дзе тратуар драўляны быў тады.
Гудрон застыў.
І добра нам з табою:
Пад ім жа
Нашы даўнія сляды.

## ІРАНІЧНЫ МАНАЛОГ ЛЯШЧА Ў ЗАСТОЛЛІ

«Калі у Прыпяці я плаваў,
Таварышок мой дарагі,
У галаве —
Ніякіх планаў,
Не знаў уласнае вагі.

А наглытаўся добра дыму,
Папетраў слаўна пад страхой —
Я стаў жаданым і любімым,
Лічыцца сталі ўсе са мної.

Я прабіваў любыя дзверы,
Склады любыя адчыняў,
Любыя фонды — ты паверыш? —
Я без паперак даставаў.

Ўсё, што завецца дэфіцытам,
Гаспадару майму цякло,
Бо ў бюракратаў апетыты
Неверагодна разнясло.
Я, як хацеў,
Іграў на нервах:
Што там чарга?
Здымай замок!
Тым больш, калі са мною верны,
Мой лепшы чысты
Друг спірток.

Машыны даставаў,
Кватэры,
Дыпломы,
Мэблю,
Гаражы,
Рабіў гаспадару кар'еру...
Але нікому не кажы,
Бо хутка вылавяць сабраццяў,
І Прыпяць стане без ляшчоў.
А я хачу туды падацца,
Бо тут замучаць.
Будзь здароў!»

* * *

Мы сябра хавалі.
Па шэраму бруку
Ішлі за цяжкою труной.
А трубы аркестра
Жалобныя гукі
Ранялі на вечны спакой.

На вуліцы, самае цеснай у свеце,
Шчымела туга балючэй.
А ў кожным акне
Папрыціхлыя дзеці —
Сузор'і няўцямных вачэй.

І гора над імі
Яшчэ ні хмурынкі,
І шчасця не ўмеюць пазнаць.
Аркестр яны слухаюць
Кожнай крывінкай —
Ім хораша трубы гучаць!..

## ВОСЕНЬСКІ ЛЕС

У лесе сумна,
Быццам у бальніцы.
Але хавай падалей валідол.
Ты чуеш:
Рэзка цінькнула сініца
Ці кінуў скальпель свой
Хірург на стол?

Аголена ўся сутнасць да адчаю,
І вольхай шэраю
Туга сплыла.
Зялёных хвоек
Радасць прывячаю,
Ступаю да бярозак —
Да святла.

Выходжу ў яснасць,
Нібы з-пад наркозу,—

Ачуньвання празрыстая пара...
Мінаю змрок.
Мне ўслед глядзяць цвяроза
Мой дуб-хірург,
Бяроза-медсястра.

## ПАЦАЛУНКІ

Вы ведаеце, дзе растуць пацалункі,
Спадарожнікі нашых сустрэч і расстанняў?
Пацалункі нават цвітуць,
як кветкі,
Кветкі, якія ніколі не ўбачыш,
Пражыві хоць стагоддзе ці болей.

Вы можаце нават адчуць на вуснах
Шчыпучую соль і настой палыновы,
Яблыка спеласць
і смеласць ляшчыны,
Сонечны промень
і траў казытанне,—
Ды гэта яшчэ не пацалунак.

Пацалунак павінен выспець
І раскрыць вам насустрач пялёсткі,
Перад ім чалавек адкрывае сэрца,
Перад ім чалавек заплюшчвае вочы,
Адчувае: салодкі ці горкі...

## ЛЁНЬКА СОХАР

Дзе ты, Лёнька,
Капітан прызнаны
Футбалістаў нашых з гарадка?
На якіх ты морах, акіянах,
Пры святле якога маяка?

Ў піянерскім лагеры калісьці
Падышоў ты першы да мяне...
Раз пятнаццаць
Адшумела лісце
У палескай нашай старане.

Адшугалі квецені акацый,
Хмары адпаўзлі
За небакрай.
Мне з табой
Так хочацца спаткацца!
Кінь усё
І летам прыязджай.

Што было калісьці,
Прыгадаем,
Прад табой нічога не ўтаю,
А пасля
У шахматы згуляем
І звядзём па дружбе ўнічыю.

Хлапчукі не нашага узросту
Бесклапотна рэжуць у футбол.
Як усё ў дзяцінстве,
Лёнька, проста:
Пяты клас,
Канікулы
І гол.

Не глядзіць жыццё
На павароты,
Мчыць сабе,
Зразаючы вуглы,
Забівае ў нашыя вароты
Сумныя й вясёлыя галы.

А пісьмо з радзімы —
Не ўтрымацца!
Для цябе ж —
Хоць карабель кідай,
Як гавораць людзі:
Праца працай...
Я сур'ёзна, Лёнька,—
Прыязджай.

## АДНАГОДКАМ

*Ул. Паўлаву*

Дасюль
Па нас сумуюць вёскі,
Дзе мы жылі,
Дзе нас няма,
Дзе нашых песень
Адгалоскі
Чакаюць нас саміх
Дарма.

Дзе над забытым кастравішчам —
Заціркі аржаное пах,
Дзе мы, падпаскі,
Пугай свішчам
На паплавах па вечарах.

Дзе нашых сцежак
Кінаплёнкі
Сляды хаваюць
На зямлі,
Дзе нашы гонкія сасонкі
На днях
У новы зрубляглі.

Дзе нашы даўнія мянушкі
Без нас
Забыліся на нас,
Хаваюць сны
Для нас падушкі
Пра малады
І добры час.

Мы ляжам спаць.
І нас дарога
Вядзе з папасу
У неон...
...А вёскі будуць строга-строга
Услед глядзець нам
Наўздагон.

## ПОШУК СЛОВА

Шукаю шчыра слова
У засуш, сухавей —
Ляціць, шуміць палова
Нахабна да дзвярэй.

Чакаю доўга слова
Асенняю слатой —

Ляціць, гудзе палова
З наіўнасцю святой.

Зімой паклікаць слова
Збіраюся даўно —
Ў акно ляціць палова
Са снегам заадно.

Гукаю з ласкай слова
У раззялёны май:
І зноў яна, палова,—
Хапае цераз край!

Не зловіш слова гэта
Ні сёння, ні пасля...
Лаві, пакуль сагрэта
Тваёй душы ралля!

## РОЗДУМ ВЕЧАРАМ, КАЛІ МОЦНА БАЛЕЛА СЭРЦА

Папрацую у школе гадок
І пайду адпачыць на Палессе:
На мазырскія горы
Сівую
Ўскладу галаву,
Уздоўж Прыпяці
Лягу на спіну па прыцемным лесе,
Апушчу над Нароўляю
Ногі ў густую траву.

З дна рачнога каменьчыкі
Левай рукою спакойна дастану,

А пасля іх з далоні
Гуллівая змые вада,
Спрацаванаю правай
Намацаю дрэвы ў тумане,
Што самотныя думы
Люляюць на ўбітых грудах.
Палаўкоўскі Млынок з Барбаровам
Гавораць на мове уключын,
Каля Юравіч юшку трайную
Глытае рыбак,
Пальцы левай рукі язь шчакоча,
Як жэўжык — мой вучань,
Цераз правую,
Быццам цераз калоду, цмыгае русак.
Цішыня і спакой.
І шкада, што жыццё ў небыццё адлятае,
Ціха зоркі ўплываюць
У зрэнкі спакойных вачэй.
Адплываю ў сусвет,
Толькі Прыпяць між пальцаў
                    цурчыць маладая.
...Правай сэрца прыкрыў я —
І робіцца раптам лягчэй.

* * *

Адплываюць годы-параходы
Па завітай штормамі траве,
Пабялелі нашы агароды,
Кроў у жылах сцішана раве.

Ад зялёных нашых акваторый
Адплываюць годы, як вазы.

Ў павуцінні белым панадворак,
Серабрыцца нітачка слязы.

Адплываюць...
Толькі мне не горка,
Не баюсяростані зусім.
Бо было:
Шалёная маторка —
Мы з табой па Прыпяці ляцім...

## СПРОБА БЕЛАГА ВЕРША АБ ПРЫПЯЦІ

Калі расплавіць усе кручкі,
Што закідваліся вякамі ў Прыпяць,
Можна з металу гэтага
Перакінуць ажурны мост пад Туравам,
Каб не чакаць гадзіну парома.

Калі сабраць усе да адной
Песні, прапетыя на хвалях бурштынных
І на яе ўзбярэжжах,
То ўся харавая капэла Шырмава
Спявала б іх ажно два стагоддзі.

Калі б раптам на беразе тым
Ты узнікла ў ружовым тумане надзей,—
Мне было б не да моста
І зусім не да песень:
Па Прыпяці, па жвірастаму дну,
Я, стаіўшы дыханне, да цябе прамільгнуў бы...



Першую у маі баразну
Пачынай ля могілак вясковых:
Тыя, хто даўно ужо заснуў,
Хай прыпомняць і сваю вясну
І паправяць наш нарог сталёвы.

Мітынгі, дастойныя вякоў,
Пачынай ля строгіх абеліскаў:
Тыя, хто аддаў да кроплі кроў,
Добра знаюць вартасць спраў і слоў,
Не даруюць фальшу нам і блізка.

Прызначай ля Вечнага агню
Першае спатканне маладое:
Тыя, хто загінуў у вайну,
К шчасцю хай далучацца твайму...
Ці было яно у іх — такое...

## СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

Сам я
З хлебаробамі нароўні,
Хоць бацькі ў настаўнікі пайшлі,
Ды дзяды з-пад Любані,
Нароўлі
Баразну мужыцкую вялі.

Я здаўна
Баюся вельмі гучна
Да цябе звяртацца свой маналог.
Апраўданнем толькі:

Мае вучні
Трактары выводзяць на аблог.

Ад кулацкіх выжыла абрэзаў,
Ад пагод, нягод
Была як цень.
Хлеб краіне трэба да зарэзу —
Ты яго давала
З дня у дзень.

Хоць сама
У горад пасылала
Па скарынку
Ў лівень і ў сухмень,
Палачкай нязлосна называла
Выкупаны ў поце працадзень.

Зараз маеш хлеб,
І ёсць да хлеба
Добры кус сялянскай каўбасы,
Вышкі тэлевізарныя ў неба
Задзіраюць з гонару насы.

Я хачу,
Каб шлях твой каласісты
Не зазнаў і роспачаў малых,
Кожны колас,
Зернем важкім чысты,
Строгім стаў суддзёй
Для ўсіх для тых,

Хто яшчэ працуе па паперцы,
Хто душой не чуе
Родны дол,
Я хачу,
Каб пры любой праверцы

Не збяднеў на хлеб
Шырокі стол,

Каб над полем
Песня узнялася
(Я пра песню сама ў час кажу),
Каб стражэй прымалі
У калгасы,
Чым на турпаездку за мяжу.

Каб механізатарам і цеслям
Толькі цёплы вецер
Быў у твар.
Словам,
Каб дабавілася песень,
Як і ураджаю, на гектар!

* * *

Я тыдзень жыў
У царстве капяжоў,
Дзе ў Прыпяць
Уліваецца Славечна.
Надвор'е падразала без нажоў,
Здавалася,
Што хмарыць будзе вечна.

За гэты тыдзень
Сам перад сабой,
Як на закрытым справаздачным сходзе,
Ўсё перабраў па нітачцы адной,
Рэгламенту не слухаючы.
Годзе!

І сам сябе балюча дакараў,
Што той нягоднік ходзіць пры уладзе,
Хоць пры малой,
А я дасюль маўчаў,
А мог даўно
Да месца упарадзіць.

І так было:
Кабеціне старой
Я не ўдзяліў увагі паўхвіліны,
Яна ж пасля ківала галавой,
А перад гэтым называла сынам.

Дадымліваю моўчкі «Беламор».
А Прыпяць
У вясёлках ад мазуту,
І не сыходзяць плямы,
Як дакор.
Бяромся за прыроду
Дужа крута!

Пара ў прыроды
Заслужыць давер.
Не ўсё яшчэ і ў нас
Выходзіць гладка.
Не калісь трэба думаць,
А цяпер...
...Прасох будан,
І высахла палатка.

Пагодка на Палессі —
Будзь здароў!
Хоць наўздагон
Бяжы за раўчукамі.
І прыпяцкіх разгубленых ляшчоў
Трымаю нерашучымі рукамі.



Я ў дзесяць год
Адчуў хаду вякоў —
Барозны гнаў
І руйнаваў акопы.
Па медалях
Маўклівых землякоў
Вучыў я
Геаграфію Еўропы...



Мы звалі фізіка Кулонам,
Не знаўшы фізікі законаў.
Кулон злаваў, ды ставіў тройкі,
Дзе сама болей — трэба двойкі.
Мы ўрэшце фізіку здавалі
І да чацвёрак дапінала.

А на жыццёвых паралелях
Інакш на фізіку глядзелі:
Ў палатках спалі сэрца к сэрцу,—
Цяпло так лепш перадаецца,
Бывала так, што і стосільны
Ляцеў па плоскасці нахільнай.

Чым большае у нас гарэнне,
Тым больш людское прыцягненне!

# СЛОВА

За лёгкай не ўлягаў удачай,
Як за начальствам падхалім —
Я над радком штоноч батрачыў,
Цягнуў яго гарбом сваім.

Забыты час
Суквеццем свежым
Прыходзіць сам
На чысты ліст,
Калі на неспакою вежах
Ты быў
І воін і гарніст!

Імкнуць увысь,
Не вянуць словы,
Трапеча сэрца
Пад крылом,
За слова праўды
Мы гатовы
Ісці заўсёды напралом.

...Мой край —
Надпрыпяцкія выспы,
Сасоннік сіні, луг, трысцё.
Я песню тут
Па слову выснію,
Адсюль
Пусціў яе ў жыццё.

## *З КНІГІ «ЛЮБЛЮ» (1981)*



* * *

Рэха далёкае
 блізкай вайны —
Ў пошуме траў
 абеліскі.
Блізкае рэха
 далёкай вайны —
Мірныя сны
 у калысках.

## «БОМБЫ»

*Сыну Юрасю*

Фашысцкі лётчык цэліў азвярэла,
Ды не хацеў здавацца эшалон.
Праскочыў.
Бомба міма праляцела,
Упіўшыся ў чыгуначны адхон.

Падкінула зляжалы жвір угору,
Скарэжыла алешыну з вярбой.
На балацянцы два малыя моры
Запоўніліся мутнаю вадой.

Для нас стаў рай.
Камандай басаногай,
Не знаючы, што ёсць і «брас» і «кроль»,
Спяшаліся прасёлкавай дарогай
У нашы «бомбы»
пыл змываць і соль.

Аж да змяркання
ў «бомбах» гаманіла
Паўсотня радасных адамянят.
Затоены да часу ў ліпкім іле,
Асколак не мінаў дзіцячых пят.

А з гулам міма радасці дзіцячай
На захад праляталі цягнікі,
З цяплушак,
што імчалі ў бой гарачы,
Кідалі нам пайкі франтавікі.

Запэцканыя гразззю, слізкай цінай,
Дзялілі мы пароўну сухары.
Жавалі іх.

А дзесьці пад Берлінам
Бацькі крывёю здабывалі Крым.

Дару табе, сынок,
Артэк і Сочы,
Дзе хваля ў бераг паўнакроўна б'е.
Давай нырца
і плавай колькі хочаш.
А «бомбы»
пакідаю я сабе.

## ВЕТЭРАН

*Барысу Купрыянавічу Ціхановічу,*
*знішчальніку «тыграў»*

Табе, відаць, і сёння
«тыгры» сняцца
І той, на вежах, павучыны звер,
І самы мяккі ложак можа здацца
Тады цвярдзей прыклада ПТР.

І ты страляеш. Праз гады і ночы.
І шрам стары зноў ранаю гарыць,
І «тыгры» разлятаюцца на клочча,
І ў медсястры ты ціха просіш:
«Піць...»

Хвала высокім зорам над краінай,
Хвала табе,
вялікі, светлы час!
Хвала Вялікай Арміі, што кіне,
Калі патрэбна, зноў на танкі нас.

## ЦЕПЛАХОД
## НА ПАДВОДНЫХ КРЫЛАХ
## «БАРЫС ЦАРЫКАЎ»

Сябры на дняпроўскую кручу
Прынеслі
Яго на палатцы зялёнай.
І грымнуў салют развітальны
Над Лоевам,
Дымам прапахлым,
Ударыў салют,
Абвяшчаючы
Небу, і сонцу,
І людзям,
Што смерць адышла,
А настала
Бяссмерце.

. . . . . . . .

Не!
Сэрца яго не прабіта
Варожаю куляй:
Як толькі,
Напяты,
Ступлю ў маўзалей беласнежны,
Як толькі рукою адной
Датыркнуся парэнчы —
Геройскага сэрца
Пачую удары.
Не!
Грудзі яго
Кісларoднай нястачы не знаюць:
Уздыхнуць,
За кармою ўздымуць
Бурун белагорбы,
І крылы,

Што стомы свінцовай
Ніколі не знаюць,
Ураз паляцяць,
Паімчаць,
Панясуць
Маўзалей вастраносы
Па хвалях Дняпровых,
Па Прыпяці хвалях
І Сожа.
І доўга жанчыны
Услед з-пад рукі
Паглядаюць.
Так маці сыноў
У дарогу праводзяць.
А ён, прымінаючы хвалі,
Вясёлку к карме прывязаўшы,
У пырсках ляціць,
Даганяй — не дагоніш.
І толькі, убачыўшы Лоеў,
Прыціхне на момант,
Магутны і горды.
А потым сірэнаю доўгай
Вітае магілу
На кручы дняпроўскай.
. . . . . . . . . . . . . .
Стаю, як салдат,
І здаецца,
Раве не сірэна,
А пошчакі б'юцца салюта,
Які абвяшчае
І небу,
І сонцу,
І людзям,
Што смерць адышла,
А настала
Бяссмерце.

## НАСТАЎНІК

Настаўнік наш у год пасляваенны
Дабіўся у Мазыр аж у абком:
Даказваў там з галодным нецярпеннем
І біў сябе у грудзі кулаком.

Але далі з апошняга запасу
Квадрат метровы радаснага шкла...
Настаўніка з паўстанка цэлым класам
Ахоўвалі да самага сяла.

Наўзваж перад сабой без рукавіцаў
Ён шыбіну тры кіламетры нёс,
З-пад шапкі пот пачаў ужо цадзіцца,
А ён хоць раз бы галавой патрос.

Ён слова не сказаў і не сагнуўся,
Што крэйда, рукі белыя былі.
Калі б тады настаўнік спатыкнуўся —
Мы б насцілам палеглі на зямлі.

Уставілі. І школа зазіхцела
Акном адзіным. А была — турма.
Сказаў ён нам, ад шчасця ачумелым:
«Глядзіце, дзеці, на дварэ — зіма».

## ВЫКЛІКАЮ ВЯСНУ ПЕРАМОГІ

*(паэма)*

Выклікаю вясну Перамогі
І раскручваю скруткі гадоў...
Здратаваныя толам разлогі
Ля разбітых палескіх шляхоў

Анямелі ў прагорклым тумане:
Вось жаданая вестка праб'е.
Зацяклі палявых тэлефонаў мембраны
У чаканні разнесці яе.

Яна першай Маскву захлынула,
І пайшла, і пайшла, і пайшла,
Ўсю краіну як ёсць скаланула
І майго не мінула сяла.

Вось над нашай знявечанай школай
Зноў барвовы праменіцца сцяг,
Ведучы пераклічку праз долы
З тым, які узляцеў на рэйхстаг.

Валянціна Барысаўна наша
Загадала: «Схавайце буквар!»
Расплываўся гісторыі страшнай
Сіні-сіні ад пораху твар.

Мы тады ля сталоў клышаногіх
У штанах з плашч-палатак, ў рыззі
Чулі голас дырэктаркі строгі:
«Больш не будзе у нас ні гразі,

Ні бяды, ні галодных наедкаў,
Будзе хлеб, будзе многа цяпла...»
І з дырэктарскіх белых балетак
Аднакласніца воч не звяла.

«Перамога прыйшла, і як людзі
Будзем жыць. Прыйдуць шчасця гады...»
І ў птушыныя нашыя грудзі
Столькі сіл улілося тады,

Што дырэктарку проста да столі
Падкідаць пачала дзетвара.

А яна нас прасіла: «Даволі!»
Ды ў адказ мы крычалі: «Ура!»

І тады ля сталоў клышаногіх
Зразумелі, што мы ўжо не тыл.
І ад слова таго — Перамога! —
Залаціўся, здаецца, і пыл.

Мы стаялі ў рыззі і абносках,
І ў каго толькі слёз не было.
...І пры свечках з трафейнага воску
Усю ноч гаманіла сяло.

Выклікаю вясну Перамогі
І раскручваю скруткі гадоў...
Наш настаўнік, сяржант аднаногі,
Да Берліна не змог, не дайшоў.

Па раненню вярнуўшыся з Віслы,
На грудзях ордэн Славы прынёс.
Папярэджваў, каб кнігі мы «грызлі»,
Бо залежыць ад гэтага лёс

І краіны і ўсіх паасобку.
Мы б іх грызлі, ды кніг не было.
А якія у матак заробкі!
Гаравала без кніжак сяло.

Пры газоўках, што соллю стралялі,
Адплывалі мы ў марах у даль,
Дзе б жылі мы і гора не зналі,
Што прынесла нямецкая сталь.

Той вясною любілі мы спевы,
Нам сяржант дух эпохі прынёс:
«У калону па два! левай! левай!»
(Толькі левую ён і прынёс.)

«Заспявай!» —
І з застуджаных глотак,
Што хацелі адно — малака,
Над галовамі ў белых пілотках
Вырывалася песні рака,

Мы з надрывінай песню канчалі,
І спявалася люба наўздзіў,
І настаўніку мы дагаджалі,
Кулямётчыкам, помню, ён быў:

«Я кулямётчыкам радзіўся,
Я кулямётчыкам узрос,
Агнём і куляю хрысціўся,
Смяротны бой я перанёс...»

Як тады у нас многа спявалі,
Хоць з вайны не прыйшло паўсяла.
Гора — горам,
                а радасць спазналі:
Перамога, як сонца, ўзышла.

* * *

Выклікаю вясну Перамогі...
Запрашаю ў лясы і палі,
Праз якія пралеглі дарогі,
Што на Захад вайну адвялі.

Сосны-стэлы з нягаснучай медзі,
Намагільныя пліты імхоў,
Сум, вянкі з дзеразы так вярэдзяць,
Быццам сам ты праз пекла прайшоў.

Вось ігліцай закіданы вочы
Ўсіх стралковых ячэек, адно

Пазіраюць і цёмнаю ноччу —
Ім далёка-далёка відно.

У траншэях залеглі салдаты,
Студзіць дождж джалы грозных
штыкоў.

Дзе ён, кожны ваенны араты?
Ці дажыў,
ці дадому дайшоў?

Яшчэ ўперадзе Одэр і Шпрэе,
Кулі ўджаляць не раз і не два.
На Алтаі матуля сівее,
Каля Томска чакае ўдава.

Я хацеў бы жывых і здаровых
Іх сабраць у сутонні бароў;
З маўзалеяў няхітрых вайсковых
Запрасіць да ссівелых сяброў.

Хай пахучай салдацкай махоркай
Перапыняць спрадвечнасці лёт...
Зелянее травы гімнасцёрка,
Дзяцел свой уключыў кулямёт.

Генералы, былыя камбаты
І каму ў генералах не быць
Будуць слухаць тут спеваў раскаты,
Самакруткай дрыготкай дыміць.

І пад гэтай табачнай заслонай,
Што злучыла Жыццё і Нябыт,
Столькі будзе жалезу праклёнаў,
Што ў адных адабрала блакіт,

А другім накідала на скроні
Столькі, колькі магло, сівізны,

Быццам зімы злюцелі ў пагоні
За салдатам мінулай вайны.

І назад у свае маўзалеі
Пойдуць ціха героі вайны,
Ля апошняй, пад лесам, траншэі
Будуць доўга сляды іх відны:

Любаваліся жытам кусцістым
І зямлю камячылі ў руках,
Моўчкі слухалі спеў трактарыста —
І раставі ў расяных палях.

Зноў сівыя пайшлі ветэраны
Сустракаць артналёты гадоў
З думай светлаю аб пахаваных,
Хто б і сёння ў шарэнгах ішоў.

А жыццё каласуе няспынна,
Сосны-стэлы над светам гудуць...
Між зямлянак, як быццам па мінах,
Па грыбы хлапчаняты ідуць...

* * *

Выклікаю вясну Перамогі,
Мірных вёсен чакаю прыход.
Адгрымелі вясны той трывогі,
І таму ты шчаслівы, народ.

Адгрымелі,
                    але не сатлелі,
Памяць свету не сцерці гадам.
Вось у Вечным агні затрымцелі
Язычкі,
                то нябачныя нам

Ля падножжаў Курганаў калоны
Пыл страсаюць яшчэ з шынялёў,
Ў палявых, не парадных пагонах,
Пальцы —
цвёрда ля чуйных куркоў.

Гэта Вечная Памяць праходзіць,
Гэта Вечная Слава ідзе:
«Можа, дзе вадарод калабродзіць? —
Дык не быць вадароднай бядзе!

Мы фашыстаў грамілі з адвагай
І на гібель ішлі без разваг,
Для насупленых новых рэйхстагаў
Хай у вас начыку будзе сцяг.

Расцвітаюць для вас нашы вішні,
Вашы сэрцы б'юць нашай крывёй,
З вамі мы —
калі ў свеце суцішна,
З вамі мы —
калі выпадзе бой.

Не спыняйце жыцця свайго кросны,
Мы прыходзім адтуль,
з даўніны.
Вашы мірныя светлыя вёсны
Не красуюць без Нашай вясны...»

. . . . . . . . . . . . . . .

Выклікаю вясну Перамогі,
Заклінаю вясной Перамогі...

. . . . . . . . . . . . . . .

## МЯСЦОВЫ ПАЭТ

Паэт мясцовы — гэта бой,
Хаця й мясцовага значэння.
І ты не смейся, дружа мой:
Адстаў, маўляў, я ад злучэння,

Пайшлі дывізіі ў паход,
Грукочуць дзесьці там раскаты,
А мне — мясцовы агарод,
Герой якісьці дзікаваты.

І ты яго чашы, пястуй,
Рабі, як мае быць, лірычным,
Працуй, працуй, працуй, працуй,
Каб быў падобны на сталічных.

Каб мой герой хутчэй падрос
На ўзрост раённага значэння,
Мне адвялі адну з палос,
Дзе побач —
«Сіла угнаення».

Дзе «Полымя», дзе «Маладосць»
Ці той жа «Вожык» мяккаваты?
А мой герой, стрымаўшы злосць,
Штовечар лез у маю хату,

І абражаў, і дакараў,
І намякаў не раз на пляшку,
І, разышоўшыся, крычаў,
Што быць яму героем цяжка.

А я прасіў:
«Расці, не плач,
Яшчэ не раз радком агрэю».

І мой раз'юшаны сілач
Хрысціў не раз мяне харэем.

А быў яшчэ другі герой
(Па ўсіх параметрах — станоўчы),
Я за яго стаяў гарой,
Але давайце лепш прамоўчым.

Я не ў тылах, я не завяў
(Няхай нікому не здаецца).
Я правільны акоп заняў,
Як падказала маё сэрца.

## ВЯСЁЛАЯ МАРА

Мазыр
хай стане абласным ізноў,
Начальства хай высокае наедзе.
У Гомелі князь з нас,
палешукоў:
Старшыні каля Лельчыц,
як мядзведзі.
Калі ж яму галіцца,
старшыні? —
Па гайку ў Гомель шэсць гадзін гайдаўся,
І на нарадах сумных
ён ані
Не дрэмле, бо ў машыне адаспаўся.
Ты будзеш мне, Мазыр,
мілей стократ,
Як зацвіцеш палескаю сталіцай.
Што знаць не будзеш
слова бюракрат,

Я на любы заклад магу пабіцца.
І лельчыцкім —
да цэнтра пяць хвілін,
А тураўскім —
якіхсьці паўгадзіны,
А сонца гаспадарыць над усім,
І Прыпяць
усміхаецца дзяўчынай.
У абласны зайду я выканком,
Каб вырашыць
адну ўсяго задачу:
Няхай мяне
хаця вартаўніком
У Мазыры ля Прыпяці прызначаць.

* * *

Шчаслівы міг жыцця на белым свеце:
Празрыстасць рання,
вечаровы змрок,
Гуляюць на зарэчным лузе дзеці,
Збіраюць кветкі-краскі у вянок.

Салодкі міг жыцця на белым свеце:
Грукоча вецер у распяцце крыл,
І колькі б ні прайшоў ты па планеце —
На ботах зззяе бацькаўшчыны пыл.

Нікчэмны міг жыцця на белым свеце:
Не чутна ў доме гаманы сяброў
Або згубіў не ў пору ліхалецця,
А так, між іншым,
першую любоў.

Шчымлівы міг жыцця на белым свеце:
З бярозы,
што ў дзяцінстве пасадзіў,
Апошняе пахучае суквецце
Падорыць іншым свой шчаслівы ўздзіў.

## СОЛЬ І АЛЕЙ

Было ў маленстве гэта ўсё смачней:
Акраец хлеба з цукрам альбо соллю,
Ці, зноў жа ўзяць,
падсолены алей
Так стасаваў да мерзлай бараболі.

Сказаць,
што сёння кармімся ікрой,—
Зусім не так.
Ды на стале не пуста.
Але ж, бывае,
шчодраю парой
Прысніцца тая,
з чорнай соллю, луста.

...Напішаш верш у сталую пару,
Затым перачытаю —
і дранцвею.
Як не хапае —
моўчкі гавару —
Прамалінейных солі і алею.

## ВЯСНА Ў РЭЧЫЦЫ

Зноў Рэчыцу вясна пацалавала:
На Ленінскай — бясчынства ручаёў,
Спатнелыя аўтобусы з запалам
Развозяць разагрэтых жыхароў.

Лядовы Днепр сумуе незласліва
І марыць пра адчайны крыгалом.
Любуючыся Рэчыцай шчаслівай,
Я п'ю паветра волкае нагбом.

Бяжыць ручай ля набрынялых клёнаў,
А сонца плавіць шыбы спакваля,
Вятроў паўднёвых цёплыя калоны
На Рэчыцу нацэлены здаля.

Шкілеты яблынь на счарнелым снезе —
Ім сніцца кіпень майская даўно,
А шустры зайчык з паднябесся лезе
Настырна у пакоі праз акно.

Папрыгажэлі раптам рэчычанкі
(Зімой красунь сустрэнеш дзе-нідзе),
Стаяць падоўгу ля абсохлых ганкаў —
«Вясна ідзе! Да нас вясна ідзе!»

А мы з табой на розных пераналах...
І я крычу з далёкае зімы:
«Зноў Рэчыцу вясна пацалавала,
І толькі нецалаваныя мы!»

## У ЯЛЦЕ

За Ніжняй Ауткай — лагчына,
Грукоча каменнем рака.
Ідзём на магілу вялікага сына
Зямлі беларускай,
свайго земляка.

Нясём у руках прамяністы
Радзімы цвяток —
васілёк.
З тваім кіпарысам зялёнаагністым
Ён марыў сустрэцца і ехаў здалёк.

І лёг ён на мармур трывалы,
Да брата жалобна прыпаў —
Пад Мінскам далёкім зямля застагнала,
Загуў кіпарыс, зашумеў, зашаптаў.

«Мо пойдзем, паэце наш мілы,
Дадому, дзе сплёў ты «Вянок»?»
Маўчанне.
Расстанне.
Адзін на магіле
Сінюткаю зоркай гарыць васілёк.

* * *

Вечназялёны падрадкоўнік — лес.
Перакладаю з мовы таямнічай,
За справу ўзяўся быццам ваяўніча,
Ды адчуваю:
не туды палез.

З загубленага дуба — стол цяжкі,
З былой бярозы — белая папера.
Перакладаю штосьці, ды не веру,
Што будуць з падрадкоўніка радкі.

## СПАТКАННЕ З ТРАКТАРАМ «БЕЛАРУСЬ» НА ЦАЛІНЕ

Не пытаў я вобласці ягонай,
Адраса не спісвала рука —
Па хадзе узрушанай на гонях
Адгадаў адразу земляка.

Безліч кіламетраў у рабоце
Ён прайшоў багатае зямлі:
Радыятар мыецца у поце,
На нагах — рубцамі мазалі.

Гэта ж волат казачна-былінны!
На спіне — загару цёплы мёд,
Быццам сонца ўсёй зямлі цаліннай
На яго сабралася ў паход.

Хоць гуляюць стэпавыя ветры
Над яго узнесенай трубой,
Я глытаю мінскае паветра,
Беларускай пахне хваіной.

Закрываю вочы — вынікае
Ля вясновай Прыпяці ралля.
І здаецца, што цябе гукае
Родная далёкая зямля.

## ЛОЎЛЯ ЛЯШЧОЎ НА ДОНКІ СА ЗВАНОЧКАМІ

Дзесьці пад самым Туравам
Выбіраем прыдатную водмель,
Што пясчаную грыву
Палошча у Прыпяці.
Выразаеш дубцы лазовыя.
Утыркаеш у бераг
Тры дубцы гаркаватыя.
Адна за другой,
Як з прашчы, вырываюцца донкі
І, лясой прасвістаўшы,
Упіваюцца ў Прыпяць.
І праз хвіліну ўжо
Тры празрыстыя лініі
Злучаць бераг і дно.
А каб сувязь была больш грунтоўная,
Ля дубцоў на дрыготкую жылку
Чапляеш званочкі.
Закуры і прыляж —
Зараз будуць падводныя госці.
У кватэру маю,
Што застаўлена сена стагамі,
Прамыта дажджамі тугімі,
Асветлена сонцам пякельным,
Пазвоняць яны праз хвіліну.
Госці позняцца? Не!
На сярэдняй
Пачынае званок варушыцца.
Значыць, госць далікатны:
Доўга ногі свае, плаўнікі, выцірае
Ля празрыстых дзвярэй трохметровых,
А можа, ляшчыху
Угаворвае першай зайсці.
І званочак звініць!

І валтузіцца жылка!!
І гнецца дубец!!!
За-пра-шай!
У тры пальцы бярэш
Неспакойную жылку
І паўкруг запрашальны
Праводзіш да сэрца:
Заходзь, калі ласка!
Зараз госць — твой палоннік:
У кватэру, дзе ззяе
Пякельнае сонца,
І духмяняць стагі,
І дажджы прашумелі,
Ты вядзеш яго правай рукой,
Адчуваеш, як б'ецца
Ляшчовае сэрца:
«А раптам не так
Я ступлю ў вялікай кватэры —
Гаспадар зазлуецца?»
Не турбуйся,
Мазырскага піва бутэлька
Нас чакае даўно —
У вільготным пяску аж пацее.
Вып'ем з горла з табой
Па глытку,
Час не церпіць
Па шклянках дзяліць,
Бо ты дыхаеш цяжка,
Няёмка сябе адчуваеш
У кватэры прасторнай,
Дзе сонца...
І мазырскае піва
Табе не па густу?!
Што ж — плыві!
Слова госця —
Закон для мяне.

Што ж — плыві!
І прабач за маленькую ранку
У губе тваёй мілай,
Прыпяць-лекар загоіць...
Я адзін у бязмежнай кватэры,
Што застаўлена сена стагамі,
Абмыта дажджамі тугімі,
Асветлена сонцам пякельным.
І пляшка мазырскага піва,
Найлепшага ў свеце.

## ВЁСКА, ЯКУЮ ЗБІРАЮЦЦА ЗНОСІЦЬ

Час не стаіць на адным рубяжы.
Вецер нам новыя песні прыносіць.
Покуль яшчэ прада мною ляжыць
Вёска,
якую збіраюцца зносіць.

Толькі зрыхтован тэхнічны нарог,
Хутка адсюль пераехаць папросяць.
Значыць, бывай, расяністы мурог
Вёскі,
якую збіраюцца зносіць.

Значыць, бывай, наш абтрушаны сад!
І пацалункаў далёкая млоснасць.
Быў блаславён твой таемны пагляд
Вёскай,
якую
збіраюцца
зносіць.

Будзеш ты жыць у высокім муры,
Будзе ўсяго табе многа і досыць.
Толькі прысніцца не раз на зары
Вёска, якую збіраюцца зносіць.

* * *

Паміраць збірайся, а жыта сей.

Пасеяна жыта, а смерць не прыходзіць,
Усходзіць, а смерці няма.
Дзядуля палетак спакойна абходзіць,
Высокае неба — ў грамах.

Пакошана жыта, а смерць — за гарамі,
Далёка яна, не відаць.
Шчыруе стары на гумне над снапамі,
І часу няма паміраць.

## РАЗМОВА З ІНФАРКТАМ МІЯКАРДА

Ты што стаіш пад бокам, мой таварыш,
Вядомы добра, чэсны мой інфаркт?
Жартуеш часта,
а не выкладаеш
Усіх сваіх з калоды чорнай карт.

Ты будзь са мной,
як з бацькам, далікатней:
Я ж мог цябе на свет не нараджаць.

А ты не-не ды зробіш сэрца ватным,
Табе ўсё смех —
мне ж трэба працаваць.

Ну, не жартуй,
схавай свае іголкі,
Яшчэ калі ты ў сэрцы не пішчаў,
Раскручваў я
цяжкой работы столкі
І залатых дзянёчкаў не праспаў.

А ты з'явіўся,
шустры, ходам чорным,—
Закінь усё,
валэндайся з табой!
Я замахнуўся кніжкай санаторнай —
Ты быў адбег,
а потым — зноў са мной.

Не блытайся, сыночак,
пад нагамі,
Вось паглядзі:
цукерка-валідол.
Дай разлічыцца з важнымі даўгамі.
Ды не хістай ты
мой пісьмовы стол!

Прыціснеш, кажаш? —
Разам да Харона
Ісці нам будзе, ведаю, лацвей,
А з чоўна ў Сцікс
спіхну цябе з праклёнам,
Каб не вяртаўся болей да людзей.

# ПАЭТАМ

Паэты! Помніце пра рэкі,
Пакуль яны яшчэ цякуць:
На іх зялёныя павекі
Ідуць у наступ дым і ртуць,—

Пакуль у іх глыбозных кручах
Яшчэ дурэюць шчупакі,
Бо хутка ў водмелях смярдзючых
Навечна стануць чаўнакі.

Даўно Бярэзіна і Нёман
І родны бацюхна Дняпро
Адчулі страшныя сімптомы.
Бяры, паэт, хутчэй пяро!

Пішы рэцэпт з лякарствам горкім,
Спусціся з неба, херувім,
Бо на зямлі ўжо хутка зоркам
Не будзе адбівацца ў чым.

Трыбунам стань і мецэнатам,
Патрэбна — стань залатаром
Для рэчкі той, куды смаркатым
Ты бегаў з вудай і вядром.

Для рэчкі той, адкуль натхненне
Ты чэрпаў доўгія гады,
Куды цяпер без захаплення
Прыходзіш ты гады ў рады.

Нам дораць рэкі спеў і ласку
У поўдзень і сярод начы.
Лічы грамадскім абавязкам
Іх ратаваць. І не маўчы!

Грымі на сходах, бі у дзверы,
Па паліраваных сталах.
Народ табе, паэце, верыць,
Не упадзі ў яго вачах.

Якою радасцю гарачай
Любое сэрца затрымціць,
Калі ў рацэ слязой дзіцячай
Вада святая завірыць.

Паэт! Нам не даруе сорам,
Калі на глум іх аддадзім.
Прыкрый іх поўным зборам твораў
І першым зборнікам сваім.

# РОДНЫ ДОМ

*(паэма)*

*Беларускаму дзяржаўна*
*універсітэту імя У. І. Лені*
*прысвячаец*

## I

БДУ! Знітаваны акорд гэтых гукаў
Будзе вечна ў жыцці маяком.
І пад старасць твае адчуваць буду рукі,
Мой настаўнік, мой роздум, мой дом.
Я паклічу цябе, калі стрэнуся з горам,
Калі сум пасябруе з валос сівізной.
Ты прыйдзі з весялосцю сваіх калідораў,
Ціхім вераснем — толькі прыйдзі! —
супакой.
Прыплыві ка мне песняй з акон інтэрната
Пацалункам старэчыя вусны шукаць...
Для мяне у жыцці будзе цэлае свята,
Калі сына пашлю да цябе паступаць.
Ты яго, калі ласка, абслухай старанна:
Калі з чэрствай душой —
прагані прэч дамоў.
Толькі знай, што душа у яго без заганы,
Бо твая — у мяне, а мая — у сыноў.

## II

Я іду развітацца са сцягам чырвоным
І з усёю сваёй палкавою раднёй.
І хлапцы-батарэйцы натоўпам зялёным
Урачыста праводзяць мяне к прахадной.

Там закурваем мы напаследак махоркі,
І не верыцца мне, што назад не прыйду.

Вер не вер, а ў кішэні маёй гімнасцёркі
На экзамены выклік ляжыць з БДУ.

Праспявай развітальную песню, армянка,
Пацалунак пашлі цягніку наўздагон,
А сустрэчную мне прапяе гамяльчанка,
Калі выйдзе сустрэць на чыгункі адхон.

Дзень і ноч — перагоны, ляцяць перагоны.
Я стаю ля акна, гавару й гавару:
«Добры дзень, БДУ, вы бывайце, пагоны!
Добры дзень, дарагая мая Беларусь!»

## III

Мы цяпер з галавою у новай стыхіі
І да кропелькі любім студэнцкае ўсё,
З дня на дзень мы канспекты вядзём неблагія
І дэкана завём між сабой Міхасём.

Столькі кніг нам не снілася нават ніколі,
Запасіся на тыдзень і толькі чытай
Пра Ахілаву мужнасць пад сценамі Троі
І прайдзіся за Дантэ у пекла і рай.

Засынаю апоўначы з кнігай пад пахай
І кажу у самоце пад шолах дажджу:
«Мне здаецца, Гамер, што твая Андрамаха
Мне нагадвае Ліду, з якой я сяджу.

Гэта імем яе абпісаў я канспекты,
А яна на мяне і не гляне ніяк».
І шкадую у сне, што Валодзя не Гектар,
А з Палесся далёкага проста юнак.

## IV

Беларусь! Каб твая прыгажосць не завяла,
Каб рука не аслабла, не страціўся зрок,
З вёсак, сёл, гарадоў і далёкіх вакзалаў
Пасылаеш сюды і сыноў і дачок.

Ложыш лепшага сала, прапахлага кмінам,—
«От, вядома, якая у вас там яда»,—
І знаёмай вядзеш за сяло пуцявінай
І жадаеш, каб нас не кранула бяда.

Не шкадуюць нічога нам родныя маці,
А жалкуюць, што болей не могуць пасляць.
Пад жыллё падарыла Радзіма палацы,
Для вучобы — у цэнтры сталіцы палац.

Беларусь! Каб твая прыгажосць не завяла,
Мы заселі за горы канспектаў і кніг.
Мы штурмуем сур'ёзных навук перавалы,
Каб ты мела і сілу, і вочы, і слых.

## V

Адшумелі, адзвінелі лекцыі
Дзень за днём — і часу не прыкмецілі.
У чытальнях — болей ста па Цэльсію.
Першы прызнак: наступіла сесія.

У каго канспекты не шчарбатыя,
Той чытае і вусом не кратае,
Хто пісаць зусім не мае звычаю,
Просіць, каб на ноч хаця б пазычылі.

Мы сядзім за кніжнымі пагоркамі,
Трызнім толькі круглымі пяцёркамі,

Пад дзвярыма аўдыторый вохкаем,
А здадзім, то дыхаем з палёгкаю.

І матулю радуем паштоўкамі:
«Любавацца будзеш залікоўкаю...»
Сесіі зімовыя і летнія!
Семінары, гутаркі і лекцыі!

## VI

Я гадамі шукаў запаветнай сустрэчы
На палескай зямлі, у грузінскіх гарах.
І бывала, што толькі цябе я прыкмечу,
Але ты растаеш, як міраж, у вачах.

Я шукаў цябе ў спёку сухумскага пляжу,
Вечарамі дрыготкімі ў родным сяле,
Як шукае сляпы дарагую прапажу,
А яна ў яго пад рукой на стале.

Я шукаў цябе доўга. Каб ты толькі знала,
Што заўжды праклінаю антычных багоў,
Калі ты пакідаеш лекцыйную залу
Для сустрэчы з другім — не са мною! —
ізноў.

Я табе не пісаў, дарагая, запісак,
Ні рубля не патраціў з табой на кіно.
Я цябе адчуваю ад рыс і да рысак,
Быццам бы не учора сустрэў, а даўно.

## VII

Не чуваць скрыгатання аўтобуснай рамы:
Мы пяём, нават шофер падцягвае ў лад.
І маршрут нам налева, направа і прама:
Мы — адна са студэнцкіх вясёлых брыгад.

Мы чытаем няхітрыя вершы са сцэны,
Потым залу чаруе дуэт спевакоў,
А танцоры такія падносяць калены,
Што калгаснікі кажуць:
«Даюць будзь здароў!»

Мы трымалі цыгаркі у пальцах драўляных,
Але ты танцавала ў лёгкім трыко.
І абруч у руках тваіх быў паслухмяны,
І твой танец усіх саграваў аганьком.

## VIII

Не прыпомню, з якога ты, брат, факультэта,
Толькі ўспомніў адну з тваіх шчырых развагъ:
«У мяне ёсць адна найвялікшая мэта:
Дом у Мінску і «цёплай» дзяўчыны пасаг».

Ці жывуць яшчэ ў сэрцы тваім адгалоскі
Родных ніў і далёкай лясной стараны?
Як ні ганіш ты сёлы і «цёмныя» вёскі,
Ад цябе адвярнуцца захочуць яны.

Мы ўсе за табой, пэўна, дрэнна глядзелі
І прагледзелі штосьці, а быў на вачах.
Хоць і кашу з катла аднаго доўга елі,
Але ты нафталінам заўчасна прапах.

Не прыпомню, з якога ты, брат, факультэта,
Толькі помніцца: бакі, кароценькі плашч.
Існуеш для маленькай карыслівай мэты,—
Што ж, праходзь, ты, вядома, не наш.

## IX

Летуценніца мілая! Заўтра ў дарогу,
І «бывай!» ты гаворыш майму БДУ.
Раніцой правяду я цябе да парога,
А пазней па слядах тваіх шчырых пайду.

Ты гаворыш сяброўкам: «Ну, вось і за працу»,
Як святыню, хаваючы сіні дыплом,
І зайздросціш у сэрцы, што ім заставацца,
А табе пакідаць назаўжды родны дом.

Памятай, на зыходзе палескага лета
Я адзін каля Прыпяці буду блукаць
І прызнаюся хвалям усім па сакрэту,
Што цябе не пакіну ніколі кахаць.

Летуценніца мілая! Заўтра ў дарогу...
І «бывай» не кажы ты майму БДУ.
Да сустрэчы, сяброўка, за родным парогам,
Я цябе ў Беларусі заўсёды знайду.

## X

БДУ! Прыйдзе час — і з тваіх аўдыторый
Грамадою шумлівай пакрочым у свет,
А спачатку наладзім студэнцкі наш форум
І паслухаем Ленінскі слаўны дэкрэт.

Пазавём да сябе мы былых выхаванцаў,
Хто на Сходні дзяліўся апошнім пайком,
Хто з абоймамі разам з салдацкага ранца
Перад боем вымаў неразлучны дыплом.

Мы паслухаем мудрыя Леніна словы —
Беларуса і сёння хвалююць яны,—

Што адкрылі для нас свет вялікі і новы,
Свет навукі для цёмнай былой старана.

БДУ! Блаславі нас на добрыя справы,
Калі прыйдзе расстання з табою пара.
Пажадай нам удачы, здароўя і славы
Толькі гэтак: «Ні пуху, сябры, ні пяра!»

* * *

У доме, дзе плакала ты,
На вокнах — глухія фіранкі,
На сценах — сляды нематы,
Скамечаны бэз — каля ганка.

У доме, дзе плакала ты,
Дым з коміна больш не віецца,
Ад ветру упалі платы,
Каза ў агародзе пасецца.

У доме, дзе плакала ты,
Пласт пылу на ложку драўляным,
Вартуе прыход цемнаты
Счарнелы замок надзіманы.

Відаць, ты спаліла лісты,
Бо кружыцца попел усюды
У доме, дзе плакала ты
Над вершам паэта-няўклюды.



Вы
Калі-небудзь
Цалаваліся ў ліфце,
Калі ляціць ён
З хуткасцю касмічнай,
Дапусцім, да чацвёртага паверха,
За шэсць секунд
Глынуўшы тры пралёты,—
А вы каханую
Не бачылі
Шэсць год?



Любімая, спіце...
Яшчэ не прачнулася Прыпяць
І чаек крыклівых з нябёс
не зляцеў снегапад.
Шчэ сонца не ўстала.
А покуль, любімая, спіце,
Сасніце што-небудзь.
Напрыклад, над Прыпяццю сад.

Сасніце мяне:
я ў гэтым надпрыпяцкім садзе
Нясу вас па сцежцы,
шкляной ад сцюдзёнай расы,
Нясу вас на бераг,
дзе хвалі нястомныя гладзяць
Сняжысты пясок
на абмежках шырокай касы.

Там Прыпяць трымціць
пад сувоем азяблых туманаў,
Пялёхкаюць рыбы
у бездані чорных віроў.
Любімая, спіце.
Яшчэ прачынацца вам рана:
Шчэ бакены свецяць
ля вёскі глухой Перароў.

Паспіце з гадзіну.
Мне нельга сягоння стаміцца:
Я з вамі плыву
у якімсьці чароўным чаўне.
Любімая, спіце...
А можа, нарэшце прысніцца,
Што вы цалавалі мяне.



Вясна з'ядала залежы снягоў,
Мы ж цалаваліся так бесклапотна.
Хіба ў Вас многа сакавіцкіх вечароў,
Што аддалі адзін мне беззваротна?

Вясна паслала сотні ручаёў
Адрэзаць шлях да Вас беспаваротна.
Хіба ў Вас многа сакавіцкіх вечароў,
Што аддалі адзін мне беззваротна?

Шкада, што Вас праз мроіва гадоў
Я не спытаю голасам гаротным:
Хіба ў Вас многа сакавіцкіх вечароў,
Што аддалі адзін мне беззваротна?

## КАХАНАЯ ПАЕХАЛА Ў АЛЕКСАНДРЫЮ

Жанчына, недалюбленая мной,
Турысткай у Егіпет завітала
Шукаць за морам даўні неспакой
Альбо вясну, што нас не аб'яднала.

(О божа мой! За тысячу км!
На маяка Фароскага руіны!
А дзе б цішком прыехала ка мне,
Каб ведала, што я бязмэтна гіну.)
Старая безладзь гутарак і моў,
Старая дружба спёкі і асфальту.
Яе чакаў у Беларусь дамоў,
А сам ляцеў у думках цераз Мальту.
У Александрыі, нудзячы па мне,
Па беларускіх вымытых абшарах,
У кожным спёкай выгнутым акне
Яна лавіла прывід нашых мараў.
Кідаючы турысцкі балаган,
Цягнула беларусак на праспекты,
Як быццам там надпрыпяцкі туман
Ці з Беларусі іх чакае нехта.

Але вакол старая безладзь моў:
Хто па-арабску, хтосьці па-французску.
І так ёй захацелася дамоў:
«Давайце, дзеўкі, мы... па-беларуску!»
Задзекалі жанчыны талакой,
Як быццам у Нароўлі на вяселлі,
І сонца афрыканскага сувой
Хоць на гадзіну некуды падзелі...

...Нудзіўся я ля Прыпяці вясной,
Твае лісты чытаючы старыя.
Па-беларуску гаварыў з табой,
Як ты са мной тады ў Александрыі...

## ВАШ ПАЦАЛУНАК

А Ваш пацалунак
Не здолелі сцерці
Дажджы і вятрыскі.
Халодныя росы
Ад дотыку з ім
Закіпалі адразу.
І Прыпяці хвалі,
Куды я кідаўся з адчаем,
Не змылі.
Пазначаны гэтай
Дзівоснаю метай,
Хаджу і пытаю
Ў дажджоў і вятрысак,
У рос ледзяністых,
У прыпяцкіх хваляў:
«А вы сустракалі
Яшчэ калі-небудзь
Такога шчасліўца?»



Праязджаючы ноччу па гораду,
У якім табе спіцца так соладка,
Паддаю я матору рухлівасці,
Каб праскочыць хутчэй, непрыкметнаму,
Паміж гэтымі сцыла-харыбдамі
Сонных дамоў, што мяне апаноўваюць,
Потым доўга стаю на ускраіне
І раз-пораз запалкамі чыркаю.
Часцяком не трапляючы па карабку:
Мо сігналы табе патаемныя
Падаю, выклікаючы з горада?
.Ці курыць захацеў праз дзесятак гадоў?

* * *



Дзівак гаспадарнік
На тое акно, ля якога калісьці
Табе я ў каханні прызнаўся,
Прыбіў непарушныя краты
У выглядзе сонца.

Магчыма, хацеў ён
Не выпусціць нас на свабоду з будынка.
А мы ж, дарагая, з табою
Раней паляцелі з акенца
З намерам вярнуцца.

Жалезнае сонца
Гарыць на акне напамінкам балючым,
Гарыць, не заходзіць гадамі:
Яно сцеражэ непахісна
Былое каханне.

* * *



Усё вазьмі — вярні надзею,
Вярні надзею —
ўсё вазьмі,
Бо я ў адчаі халадзею,
Заплыў гарачымі слязьмі.

Вярні надзею на хвіліну.
Зруйнуй няспраўджаныя сны.
Вярні!
Пакінь жа на ўспаміны
Дачаснасць нашай сівізны.



Я той дзяўчыне абавязан
За непакой у даўні май
І за «люблю» пад цёмным вязам,
За нечаканае «бывай!».

Я абавязан той жанчыне
Не за пякельнае таўро...
Хаця ў яго я пры ўспаміне
Мачаю столькі год пяро.



Пярсцёнак на тваёй руцэ цалую,
Імкнуся растапіць метал глухі,
Нічога я не бачу і не чую —
Імкнуся растапіць метал глухі.

Забыў пра ўсё пад месяцам і сонцам,
Імкнуся растапіць метал глухі.
Цалую рукі мілыя бясконца —
Імкнуся растапіць метал глухі.

## СЭРЦА СЭРЦА ШУКАЕ

У люты мароз, калі да дна
Прыпяць мая прамярзае,
Пішу табе вершы я давідна —
Сэрца сэрца шукае.

У майскі разліў, калі да дна
Прыпяць сінечаю грае,

Пішу табе вершы я даўна —
Сэрца сэрца шукае.

У жнівень сухі, калі да дна
Прыпяць мая высыхае,
Пішу табе вершы я даўна —
Сэрца сэрца шукае.

Пад восеньскі плач, калі да дна
Прыпяць свінцом заплывае,
Пішу табе вершы я даўна —
Сэрца сэрца шукае.



У старажытным гарадку на поўначы,
Дзе сама ў Беларусі халадней,
Мяне даўно, магчыма, і не помнячы,
Сумуеш ты, якой няма радней.

У старажытным гарадку на поўдзені,
Дзе сама ў Беларусі гарачэй,
Спыніўся я пасля дарогі пройдзенай,
Каб сцерці слёзы горкія з вачэй.

Вось хутка дні на хвілю павялічацца,
На хвілю болей думаць аб табе,
І хвіля гэта, ведаю, залічыцца
Маршчынкай лішняй у мяне на лбе.

Няхай, няхай! Мой лоб з дзівоснай сеткаю
Хай стане картай пройдзеных дарог,
Няхай хоць ён упартым стане сведкаю,
Што я цябе калісьці не збярог.

І замiраю з думаю адчайнаю:
А як ты там, на поўначы сваёй?
А зорка векапомная расстайная
Гарыць над намі — над табой і мной.

## ПРЫПЯЦКІ МОСТ

З Калінкавіч еду ў славуты Мазыр
І прыпяцкі мост не міную.
Націсні, браток, тут на ўсе тармазы —
Я пешшу праз мост пашыбую.
Бетонным Атлантам раскінуўся мост,
Плюскоча пад фермамі Прыпяць.
Над Прыпяццю крочу я ў горад наўпрост
Паветра гаючага выпіць.
А можа, вярнуцца?
                                    На беразе ж тым,
Знямогшыся ад хвалявання,
Вясновай парой, у зімовую стынь
Мяне ўсё чакае каханне.
Мне страшна прайсці міма постаці той,
Прасцершай імклівыя рукі,
На скронях дыханне вясны маладой
Адчуць пасля доўгай разлукі.
Каханню свайму, да якога іду,
Усё дараваў і дарую:
І тую юнацкую нашу бяду,
І гэтую рану старую.
Не ўсе праз каханне ідуць пад вянец,
Не дадзена ўсім мілавацца,
Каханне не ведае
                                    слова «канец»,
З ім нельга навек развітацца.

Грыміць крыгалом
ці вызвоньвае плынь —
Над Прыпяццю коцяцца годы...
Жыццё!
Забяры ўсё,
а гэта пакінь —
Вось так хвалявацца заўсёды.

## НЕЧАКАНАЯ СУСТРЭЧА СЯРОД ЗІМЫ

А мы маглі не ўбачыцца ніколі,
Навекі згінуць у сваіх краях.
Юнацтвам, вамі ўражаны да болю,
Не сплю з тае хвіліны па начах.
А вам, такой прыгожай і танклявай,
Магчыма, проста дробязь — мой прыход.
Мне сталі вы празрыстай, светлай явай —
Хацелі вы ці не — на многа год.
А з вашых рук зрываюцца пярсцёнкі,
Лунаюць забаронай нада мной...
Калі здалёк ляціць ваш голас звонкі —
І кветкі распускаюцца зімой.

* * *

*Веры*

А клічаш за сабой на край зямлі,
Лірычным ланцугом звязаўшы рукі.
І мы з табой пабраліся, пайшлі
Ў жыццё без асаблівае прынукі.

Але мяне не вабіць дальні край:
Вось тут, на пасярэдзіне жыццёвай,

Сабе любую працу выбірай,
Лічы яе пачаткам і асновай.

Гадуй сады, вырошчвай каласы,
Гартуй у вучняў волю, як жалеза,
Стаміўшыся, ля Прыпяці-красы
Хмялей вясной ад маладога бэзу.

Няхай вяслуе чарада гадоў,
Над намі сцяг кахання і даверу...
Ісці з табой на край зямлі гатоў,
Але сярэдзіне жыцця ўсё ж болей веру.

* * *

Плывуць у Мазыр параходы,
Імчаць у Мазыр цягнікі,
Брыдуць у Мазыр пешаходы,
Цякуць у Мазыр раўчукі.

Ляцяць у Мазыр самалёты,
Спяшаюць хутчэй «Жыгулі»,—
Імкнуся за імі я ўпотай
Да мілай гарыстай зямлі,

Да дома,
дзе замець акацый,
Да дома,
дзе вішань прыбой,
Да дома,
дзе цяжка прызнацца
У тым,
што сягоння са мной.

# ПЕДВУЧЫЛІШЧА

*(паэма)*

*Расулу Гамзатаву*

## I

Чым больш старэем, прагнем прастаты...
(Не прастасці абы-якой папала!) —
Я помню беларуса-генерала,
Што вырваўся з вайсковай духаты
У вёску адпачыць і — ўсім на дзіва —
Качаў у прыску бульбу у «мундзірах».

Я знаў паэта: ледзь не лаўрэат,
У вершах зоркі, быццам карамелькі,—
А крук, забіты ў выгнілую бэльку,
Яго да слёз расчуліў акурат:
Паэт успомніў сена у калысцы
І нават жур у дзеравянай місцы.
І я дасяг экватара жыцця,
Капрон валос ад спёкі ледзянее,

А вецер веку круціць, а не вее.
І не зраблю нікому адкрыцця:
Адсюль душой да прастаты імкнуся,
Як з выраю штогод дахаты гусі.

Дваццаты век ідзе на поўны ход.
Век нікаціну і акселерацый.
Пара машын, нейтронаў і авацый!
Вярні назад хаця дваццатку год,
Вярні маю бялявую чупрыну
І, калі можаш, любую дзяўчыну.

Дваццаты век да лірыкі глухі:
З касмічных рэек іскры выкрасае,

На ўзбочынах міжзорных пакідае
Урапавых адкідаў варахі.
Не верыцца, што ў космасе адкрытым
Ад нашых рук ды зарунее жыта.

Душа ірвецца ад ракетных трас
У травастой пад Рэчыцай высокі,
Дзе я не знаў з паперамі марокі,
У Рэчыцу, дзе бэз цвіце якраз,
Дзе брук Савецкай вуліцы надзейны
І гэты дом, цяпер амаль музейны.

Нашто душу трыножыць? Хай ляціць,
Праз сцены педвучылішча прарвецца,
Няхай, як ад удару, страпянецца,
На калідорах цесных патрымціць:
Душа такога дваццаць год хацела,
Таму яна не слухаецца цела.

Даруй, шаноўны крытык, паварот
І мой узлёт такі патрыярхальны
У час нашэсця тэм амаль глабальных,
Рэцэнзію не пхай, як сусла, ў рот,
Не дачытаўшы гэтае паэмы,—
Не падганяй яе, браток, пад схемы.

Бязбожна я ад схем тваіх адстаў...
Тады з садоў цягнула купарвасам,
Калі я развітаўся з сёмым класам,
«Куды пайсці вучыцца» пагартаў,
І мне сказала маці-удавіца,
Каб ехаў на настаўніка вучыцца.

Э, скажаш, традыцыйны паварот:
З галоднай вёскі — у вагон трамвая.
Вучоба, мары. Покуль супадае.

Але скажу: і праз суметы год
Пакінуць мне вясковыя бярозы
Цяжэй, чым бачыць у каханай слёзы.

І ты, мой крытык, колісь па дыплом
У горад рушыў з-пад страхі сялянскай,
Каб гараваць, а не тлусцець па-панску,
У інтэрнаце свой знайшоўшы дом.
З-пад Гомеля ці з-пад сінюткай Шчары
Ішоў-мінаў нягеглыя папары.

Ізноў ад схемы поўны паварот:
Я закахаўся на другім, а першы
Курс і цябе пагнаў, браток, на вершы,
Каб палажыць у сэрца рыфмы мёд.
Тут нашы біяграфіі супалі:
Абодва гарадскіх мы пакахалі.

Ты ў Мінску, у чароўным БДУ,
Я ў Рэчыцы, дзе БДУ вяршыняй
Імгліўся мне ў той далечы вышыннай,
Куды, не верыў, што калі й дайду.
Ды да вяршыні, думаў, брацца можна,
Бо педвучылішча было падножжам.

Але пакінем з крытыкам маім
Пакуль што без падставы важкай спрэчку,
Бо раззлуеш — і гэты твор на сечку
Патрушчыць ён, увесь заняўшы «ЛіМ».
Харошы крытык, калі спіць на печы
І пасля піва ціха грэе плечы.

Я крытыкаў люблю без «так сказаць»,
І без «між іншым», і без «менавіта»,
Калі усё, як бот, падзейна сшыта,
Нідзе вады не будзе прапускаць...

Вось і дайшлі мы неяк між размовы
Да месца дзеі, Рэчыцы партовай.

Мой першы курс... А што то быў за час?
Час подступу да ведаў грознай глыбы,
Час вывучэння «Янука Сялібы»,
Час, калі ў горад не пускаў калгас.
Тады таран з ікрой ляжалі плазам,
А глёўкі хлеб размэнчвалі адразу.

## II

Мой першы курс, калі яшчэ Яна
Мой небасхіл каханнем не прашыла,
Быў поўнасцю аддадзен кнізе мілай:
Заняты быў чытаннем давідна.
Каб так далей сядзеў у кніжным лесе,
То зараз быў бы сама менш прафесар.

Я жыў на самым беразе Дняпра
У полькі Ванды, што куток здавала
На чатырох. І гэтак пападала
Па тры квадраты кожнаму. Пара
Шчаслівай цеснаты, вясёлых жартаў
Пасля заняткаў за студэнцкай партай.

Пасля лучыны — гэта цэлы рай;
Пад столлю белай —
груша «саракоўка»!
Уляжся на канапе мулкай лоўка
І хоць да самай раніцы чытай,
Бо хлопцы засыналі акуратна,
Аддаўшы мне святляк саракаватны.

Так дзень і ноч над кнігамі карпеў,
Не наталіўшы голаду, вясковіч.

А засынаў, то сніўся Лабановіч,
Яго шляхі я паўтарыць хацеў.
І я чакаў, што з паднябеснай высі
Ў пакойчык цесны з'явіцца Ядвіся.

Мая Ядвіся, з рэчыцкіх краёў,
Не з Цельшына, далёкага, як зорка.
Сярод начы блукаў на панадворку,
Падшукваў для прызнання безліч слоў:
А раптам заўтра трэба будуць словы,
А я змаўчу, як сом, цяльпук вясковы.

Тургенеў мне адказу не даваў —
Кідаўся да Заля і Мапасана,
Хаця з маім, камсорга групы, санам
Французскі дух ніяк не стасаваў.
Я іх хаваў глыбока пад падушку:
А што нам скажуць Лермантаў і Пушкін?

Карнет апальны страсянуў мяне,
Любоў да Керн былога ліцэіста
Строй дум маіх перавярнула чыста.
І я, што поўзаў па французскім дне,
Пачуў вялікіх закаханых голас,
А тут яшчэ — з Ядвісяй мілай Колас.

І полька Ванда болей за святло
Мяне па вечарах не дакарала.
«Схуднеў, сынок!» Паболей есці сала
Параіла. А сала не было.
У тыя дні мая ўдавіца-маці
Не чула нават піску парасяці.

Мы націскалі больш на «ліверпуль» —
Звычайны харч, відаць, усіх студэнтаў.
Другіх і не чакалі мы прэзентаў

Ні з дому, ні з казны — аніадкуль.
Пад ліверку — чаёк на «белай ружы»,
І можна горы кніжныя адужаць.

Што «ліверпуль» ці аржаны батон!
Ўся Рэчыца, расквечаная бэзам,
Дарыла мне юнацтва паланезы
І маладосці радасны азон.
Яны балюча напаўнялі грудзі,
І я трымцеў: вось-вось ды штосьці будзе.

На танцпляцоўцы ў парку гарадскім
Душу вярэдзіла мне «Рыа-рыта»,
Стаяў я воддаль,
                    ліпаю закрыты:
Каб і сабе пакоўзацца тут з кім?
Ды я тады з упартым пастаянствам
Адносіў танцы у разрад мяшчанства.

Як злодзей, пакідаў я парк цішком.
Каменскага зубрыў і Песталоцці,
Макаранку асвойваў па ахвоце —
Які без іх настаўніку дыплом?!
Шчэ зорка Сухамлінскага над светам
Не пралятала яркаю каметай.

Трохпавярховы на Савецкай дом
Штораніцы мы шумна напаўнялі,
І там нам педагогі адкрывалі
Шляхі змагання з чэрствасцю і злом.
Адну з такіх педагагічных лоцый
Запомніў: болей праўды і эмоцый!

У маладой пяўрымснай грамадзе
Між лекцый я стараўся без упынку
Спаткаць яе, жаданую дзяўчынку.

Дык дзе ты, мая суджаная, дзе?
Але спакой паказвалі дзяўчаты,
І сэрца я сваё саджаў за краты.

Вось першае студэнцкае вясны
Дажджы прайшлі. Не знікла хваляванне.
Я плыў далей у нейкім прадчуванні
Сустрэчы з ёй у свеце навізны.
А Рэчыца замлела ад акацый.
Была пара нясцерпная вакацый.

### III

Вітаю, горад, восеньскі твой сум!
І я вярнуўся ў байкавай абнове:
Футболка на «маланкавай» аснове —
Неперашыты першы мой касцюм.
Зноў дом гудзе прывычна на Савецкай,
Зноў сэрца ные у грудзях хлапецкіх.

Але прыйшла!.. Прыйшла, не падвяла.
Праз бездані усіх маіх чаканняў,
Праз Гімалаі мар і спадзяванняў,
Не з неба — проста па зямлі прыйшла.
Не знаючы, што я па ёй сумую,
Што я яе чакаў, а не другую.

Звычайна помнім: камсамольскі сход,
Ці танцы, ці якія імяніны
Нас прывялі ў палон да той дзяўчыны,
Што ўжо прысушыць на дзесяткі год.
У майго кахання — новыя скрыжалі,
Бо я папаўся у спартыўнай зале.

Дзяўчынка-першакурсніца з мячом,
У саколцы і казённых шараварах —

Я не такой яе ляпіў у марах!
Яна ж гарэзна павяла плячом,
Пас аддала і крыкнула «наперад!».
Я стаў як слуп.
Вось і лірычны нерат!

Дзяўчаты штурмавалі дружна шчыт
І падахвочвалі яе: «Тамара!»
А я прыдумаў толькі слова «мара»,
Хаця адчуў на рыфмы апетыт.
О як карысна секцыю баскета
Наведваць тым, хто хоча стаць паэтам!

...Як часта у наступных дваццаць год
Мяне імя Тамара ратавала
На грабянях усіх дзевятых валаў
І зберагала ад усіх нягод,
Было ярмом з адзнакай талісмана,
Было святлом і незагойнай ранай.

Калі яго на беразе ракі
Шаптаў: «Тамара»,— сотні шчукаловаў,
Аглушаныя гэтым дзіўным словам,
Глядзелі, як на лёсках шчупакі
На міг, нібы ў гіпнозе, заміралі
І трайнікі са сталі разрывалі.

Калі ішоў па свеце напрасткі
І сілы маё цела пакідалі,
Шапну: «Тамара»,— ціха падпаўзалі
Да ног маіх аднекуль цягнікі,
Дарылі мне зялёныя вагоны,
І я ачуньваў, зноўку акрылёны.

Калі на казахстанскай цаліне
Бушлат мой быў наскрозь прабіты потам,

Я з Беларусі зваў цябе употай —
Ты праз Расію бегла да мяне,
Ад солі адмывала гімнасцёрку,
І мне было і хораша і горка.

Калі стральбу адказную вялі
І мой камбат кіпеў армейскім матам,
Ты папраўляла ціха каліматар —
І «конус» мы таптаді на зямлі.
Нас генерал любоўна зваў сынкамі,
А ты стаяла тут жа, побач з намі.

Я аб'яднаў з тых пор усіх Тамар
У нейкі ордэн з сілай патаемнай.
Ў любым краі было заўжды прыемна
Сустрэць імя такое, як удар,—
Яно іголкай прашывала грудзі,
Прыносіла зялёны май у студзень.

Тамарам дараваў усе грахі,
Для іх настройваў радасці кларнеты.
Імя было: ў змаганні — амулетам,
У непагадзь — надзейнасцю страхі.
Хоць ведаў: ёсць з усіх Тамар Тамара
І для маёй яны зусім не пара.

Але давайце вернемся назад,
Пакуль наш крытык з барадой Фідэля
Не расчасаў дрымучую кудзелю
І не звярнуў на гэты твор пагляд...
Гульні — канец. Разбегліся дзяўчаты.
Запомнім слодыч гэтай дзіўнай даты.

І там на ёй «сышоўся клінам свет»
(Праз дваццаць год напомніць песняй П'еха).
Яна мне стала мукаю і ўцехай,

Я цалаваць гатоў быў кожны след
На рэчыцкіх разбітых тратуарах,
Там, дзе хадзіла мілая Тамара.

Я сэрца лёгка выкаціў з грудзей
І ёй аддаў на доўгія часіны:
«Бяры яго, любімая дзяўчына!
Распарадзіся ім. Сярод людзей
Усёй зямлі адна ты маеш права
Трымаць вось гэты камячок рухавы».

Яна ж не знала. Тры гады цяжкіх
Прыходзілася не даваць і знаку,
Што я папаў Амуру у падсаку
І трапячу, згубіўшы зрок і слых,
Што стрэламі яго наскрозь працяты.
Але які я раптам стаў багаты!

## IV

Я сам дасюль яшчэ не зразумеў,
Адкуль у мяне вытрымка ўзялася,
Бо, ходзячы за ёю даўнім часам,
Я на агні высокім не згарэў;
Былі мы з ёй як тыя паралелі,
Што скрыжавацца хоць калі хацелі.

Я пры сустрэчах трапятаў, як птах,
Не пападаў ад хвалявання ў дзверы.
А тут яшчэ за ёю кавалеры
Пайшлі на трэцім курсе па пятах:
Вось-вось Тамары споўніцца семнаццаць,
І кожны мог ёй раптам спадабацца.

І толькі я, вясковы ахламон,
У гэтую кагорту закаханых

Баяўся стаць. Было наканавана
Здаля зацята вытрымаць палон.
А як сказаць, што я у тым палоне?
Сказаць, бо сэрца з болю захалоне.

Калі б мяне пад грозны барабан
Выводзілі на ўзбуджаную плошчу,
Дзе рэзкі вецер, як вяроўкай, хвошча,
Каб дапытацца: хто яна? — Цурбан
Сам з-пад сябе я выбіў бы адчайна,
Але нікому не адкрыў бы тайны.

Калі б знайшлі грымотны пісталет
І мне да лба з пагрозай прыстаўлялі:
«Скажы імя!»,— то кулі ўсе ў канале
Ніколі не зрабілі б страшны след:
Ад лютае упартасці расталі б,
Жывым свінцом абойму разарвалі б.

Я сам сябе узвёў на эшафот —
Што кулі і нікчэмныя вяроўкі! —
Страшней няма такой вось галадоўкі,
Калі «люблю!» не разрывае рот,
Калі «люблю!» не раздзімае хмары,
Калі яго другі шапне Тамары.

Я стаў пісаць. Няшчасны рыфмаплёт!
Падручнікі закінуў і заняткі,
Рвануў у мора рыфмаў без аглядкі
І даў сваёй фантазіі палёт.
Мяне скруцілі ямбы і харэі.
А вы так у юнацтве не хварэлі?

А полька Ванда — тонкая душа! —
Заўважыла са мною перамены
І, каб мае не затухалі гены,

Карміла супам рэдкасным спярша,
Затым давала ключ ад бакавушкі,
Каб я адзін радкі-дзіцяткі гушкаў.

Рэдактары насценных тых газет
Празналі пра мае практыкаванні,
Давалі мне бясконцыя заданні
І пахвалялі: «Ты у нас — паэт!»
Ліслівілі яны не дужа тонка
І адпускалі мне па тры старонкі.

Пра што пісаў?
Прыпомню, пачакай.
Пра двойкі, злёты, лекцыі, спазненні.
Але ж было між гэтым і трымценне,
Былі Вясна і уладарны Май.
Сярод палёў разбуджанага мая
Жыла яна, Тамара дарагая.

Цікаўны да паэзіі народ
Чытаў мае няхітрыя куплеты
(Бо тэлевізар не валодаў светам),
Каменне ў мой ляцела агарод:
Глядзі, камсорг па вушы закахаўся,
Бо так раней у вершы не кідаўся.

Якраз у педвучылішча да нас
Прыехалі паэты на сустрэчу,
Наладзілі у зале цёплы вечар...
О незабыўны незавялы час!
Ля сэрца сшытак з вершамі трымаю,
А як аддаць на суд — таго не знаю.

Аўрамчык пад заслону запытаў:
«А можа, хто сярод прысутных піша?»
Тады сярод набраклай, гнёткай цішы

Мой аднакурснік — смелы быў — устаў:
«Вось наш камсорг,
ён хоча быць паэтам,
Дапамажыце, беднаму, у гэтым».

Я сшытак, помню, сунуў Русаку,
Стуліў, як пад цяжарам, помню, плечы.
«Прыйдзіце у гасцініцу пад вечар».
Кіўнуў, бо рот мой быццам на замку.
І пакрываўся ўвачавідку потам,
Бо я ўяўляў той суд, што будзе потым.

Не разбіралі вершы, а таўклі
За сумны ямб і дактыль хваравіты,
Сядзеў я быццам куст,
дажджом прыбіты,
І праклінаў той горкі час, калі
Мяне пацегла на такія ямбы,
Бо не было б ад мінчукоў мне блямбы.

Мяне вачыма змераў Кавалёў.
Былы марак быў не такі суровы:
Знайшоў дэталі, неблагія словы
Маім прыціхлым крытыкам прывёў,
А потым: «Волноваться нет причины:
В стихах видать,
что клад — твоя дивчина...»

V

Дом на Савецкай — зараз інтэрнат,
Ля ўвахода — ўжо не нашы кветкі,
Таполі толькі — як былога сведкі —
Прымаюць змены юнае парад.
Люблю адзін хадзіць каля таполяў,
Якім над намі не шумець ніколі,—

Над намі, нада мною і над ёй,—
А толькі што над кожным паасобку.
«Ці не падобна гэта на падробку? —
Зазначыць барадаты крытык мой.—
Хто ж не дапіў любоўнага з вас зелля?
Чаму няма на сто радкоў вяселля?»

Няма. Што ж зробіш, юны барадач?
Жыццё распарадзілася сюжэтам.
І я не стаў, па шчырасці, паэтам,
Так што не ганьбі, а хутчэй прабач.
Настаўнікамі мы з Тамарай сталі
І, значыць, для Радзімы не прапалі.

«Цудоўна! Трэба й асабісты план.
Пры чым тут упачатку Лабановіч?»
Настаўнік ён. Вось толькі Багдановіч
Гаворыць, што было ўсё — не падман,
Бо песню тую пра Венеру-зорку
Нам слухаць з ёй і радасна і горка.

«А ці былі сустрэчы той вясной?»
Былі, былі, харошы мой, сустрэчы:
Я Рэчыцу прамерваў кожны вечар,
Чаромхі горы падарыў я ёй —
На ўскраіне, дзе зараз пахне нафтай,
Мы неслі з ёй да ранніх зорак вахту.

Сціскалі так гаркавы белы цвет
Паўкружжам рук і целамі сваімі,
Здавалася, у бездань нас узніме
Прарослы з нас чаромхавы букет.
Мы плакалі ад шчасця і кляліся,
Што жыць нам разам у бязмежнай высі.

Быў нам адзін, не каляндарны, май,
Жыццё падаравала нам і чэрвень.

І мы ў даўгу прад Рэчыцай вячэрняй —
Ты, крытык, нашу шчырасць прыкмячай.
Ды ёсць заўжды паэзія і проза,
Ёсць цёплы май і лютыя марозы.

«Чаму ж ты так няпэўна твор назваў?
Па-мойму, лепш — «Няўдалае каханне?»
Няўдалае?! Такога хвалявання
Я болей у жыцці не сустракаў.
І нават дзікай крыважэрнай смерці
Яго з душы маёй ужо не сцерці.

...О педвучылішча! Прымі паклон
За тое, што калісьці нас з'яднала,
Нас навучыла і накіравала
На той цяжкі асветніцкі загон,
Дзе дваццаць год стаім ля школьнай парты,
Пранёсшы дух твой і тваю упартасць.

Шчэ дзякуй, педвучылішча, табе,
Бо памагло у ранняй маладосці
Не разгубіць галоўнага чагосьці,
З чым не зачэзлі ў цяжкай барацьбе
За нашу праўду і за нашу песню
І хлеб дзяржаўны елі толькі чэсна.
І тым, хто ў педвучылішчах цяпер
Сябе рыхтуе на прасцяг асветы,
Перадаём з Тамарай эстафету,
Перадаём павагу і давер:
Расці, гартуйся, змена маладая,
І не жартуй над нашым даўнім маем.

...Наш май не можа кануць у нябыт,
Яму шумець над намі цёплай кронай,
Жыве наш май па радасці законах,
Наш май вышэй за славу й дабрабыт...

А нашы тагачасныя альбомы
Хаваюць вобраз кожнага знаёмы.

Яе альбом — у ціхім гарадку,
Які я бачыў прыцемкам з вагона.
На здымку я — ў запыленых пагонах,
І гімнасцёрка быццам на калку.
На адвароце —
подпіс-заклінанне:
«Ты не забудзеш нашага кахання!»

А мой альбом — у вёсачцы малой,
Дзе школа вучняў усё менш збірае.
Яна з дакорам з фота пазірае,
Як адгадала лёс і свой і мой.
На адвароце —
клятва-абяцанне:
«Я не забуду нашага кахання!»

Мы дваццаць год не бачыліся з ёй,
Відаць, не варта варушыць былое,
Бо тое дрэва, ведама, старое,
Дзе мы кляліся даўняю вясной.
Няхай шуміць яно вячыстай кронай
Над нашай юнай Рэчыцай зялёнай.
А я нясу праз вёсны і гады
Букет чаромхі, крыху гаркаваты,
Нясу як быццам на якое свята
Ці на спатканне — помніце? — тады.
Ды толькі вецер рэчыцкі крылаты
Заўжды чаромхай пахне гаркаватай.

## ЗВАНОК У ЮНАЦТВА

*Тэлефаністкам Рэчыцкага міжгародняга перагаворнага пункта*

Калі журба нічым ужо не лечыцца
І думкі мітусяцца ў галаве,
Прашу міжгорад:
«Родненькая Рэчыца!
Звані туды, дзе мілая жыве...»
І дрогне провад на слупах-«салдаціках»,
І ў горадзе, далёкім ад мяне,
Цябе, любоў у просценькім халаціку,
Сярод начы званок мой скалане.
Ты будзеш доўга трубку тэлефонную
Сціскаць непаслухмянаю рукой,
Баяцца будзеш фразаю казённаю
Парушыць шчасця даўняга спакой.
Ды раптам скажаш штосьці суцяшальнае —
І я да кожнай жылкі затрымчу
І зноўку ў наша лета развітальнае
На крылах новай радасці лячу.
Лячу на наша месца улюбёнае,
У парк ля рэчкі пакручастай той,
Дзе аж дагэтуль лавачка зялёная
Без нас стаіць-сумуе сіратой.
Сумуе лаўка пад зялёным клёнікам
(Прабач, хлушу, бо там — дарослы клён),
Ды да яе я ўсё тваім паклоннікам
Хаджу... Вось так, маўклівы тэлефон.
Званю:
«Міжгорад? Родненькая пятая!
Чаму так доўга тэлефон маўчыць?!»
І мне адкажуць:
«Лінія занятая»,—
Бо нельга
у юнацтва пазваніць...

## НАША «ЧЫРВОНКА»

*(паэма ўспамінаў)*

Цябе вітаю песняй звонкай,
Як свята Мая дзетвара,
Мая вясёлая сасонка,
Мая любімая «Чырвонка»,
Мая старэйшая сястра.
Цябе чытаў я на Каўказе
Каля салдацкага стала,
Ты мне не здрадзіла ні разу,
Пісаў, як любай. І адказу
Чакаў, як сонейка зямля.
Чуваць твой голас нам здалёку.
І не злічыць тваіх сяброў.
Знікаюць хмурыя аблокі,
І сонца ходзіць так высока
Ад цеплыні прачулых слоў.
Гартаю жоўтыя старонкі,
З табою гутарку вяду,
З табою, арабіны гронка,
З табою, верная «Чырвонка»,
Па успаміны я іду.

### Успамін першы

Трыццаць два кілаграмы мяшок. Супрацьгаз.
Аўтамат і свінцовыя боты.
Трыццаць два кіламетры прайшлі, а Каўказ
Падганяе спацелыя роты.
Прахалоду падорыць з цясніны рака,
Запявала — высокія ноты.
«Перавал — і прывал!» —
загадаў кампалка.
І лягчэюць салдацкія боты.
Мой салдацкі мяшок — мой малы арсенал,

Рэчаў склад і чытальная зала.
Толькі крыкне камбат па калоне:
«Прывал!»,—
Як «Чырвонка» з мяшка выглядала.
Я баяўся ў яе заварочваць махру,
Бы ў каханні прызнацца адразу,
Як на стол, я «Чырвонку» лажыў на гару
Пад пякельнаю лямпай Каўказа.
І прыходзіла Прыпяць да стомленых ног
І мяне на ўлонні гайдала...
Сярод соцень дарог,
сярод тысяч трывог
Беларуская мова гучала.

## Успамін другі

Жыла вясёлая Маруся
Ў маёй палескай старане.
Заўсёды стомленыя гусі
К ёй прылятали па вясне,
Адпачывалі — і шнурочак
За небасхіл імкнуў далей...
Да хаты дзеўчыны слядочак
Праклаў ужо даўно Андрэй,
Вяселле справілі у маі
Пад пераЗвоны ручаёў,
А потым дзень за днём ў адчаі
Чакала чалавечых слоў.
Андрэй? Андрэй паглядваў скоса,
А быў учора ён так люб.
Не плаціць больш Маруся ўзносаў,
Забыты песні, смех і клуб.
Лягла на плечы гаспадарка,
Дарогу ў клуб адрэзаў плот.
І стала хатняю свінаркай
Не на адзін Маруся год.

Прыбрала печ усе узлёты,
Спаліла мары у агні.
Была ж любімая работа,
А тут — куды ні павярні...
Ляжыць у шафе захаваны
Білет з партрэтам Ільіча.
І вось прыходзіць нечакана
Падмога, крышачы адчай:
Прынёс пад вечар нейк газету
Марусі ў хату сакратар,
І ліст, далонямі сагрэты,
Дыхнуў палёгкаю у твар.
Размову шчырую «Чырвонка»
З Марусяй вечарам вяла:
Усё да месца з густам, тонка,
Як бы ў сяле яе жыла.
Як быццам горычы Марусі
Спляліся з лёсам і яе:
«Як быццам ў цэлай Беларусі
Адну убачыла мяне!»

Знікае чорнае здранцвенне:
«Білет! Білет знайсці хутчэй!»
І родны Ленін з захапленнем,
Здаецца, вымавіў: «Смялей!»

Білет загорнут у «Чырвонку»,
Без хусткі выбегла у двор:
Згары, свінячая палонка!
У небе столькі свеціць зор!

### Успамін трэці

Пачынаюцца рэкі з малых ручаёў —
Нараджаецца слова ў тысячы слоў.
Пачынаюцца вёсны з лясоў абагрэтых —
Пачынаюць дарогу з «Чырвонкі» паэты.

Мы гадамі шукалі запеў маладым,
Мы ў раённых газетах пісалі тады.
Толькі ты, толькі ты (я сказаць не баюся)
Нам паказвала твар дарагой Беларусі.

Ты сачыла за кожным узлётам пяра,
Ты стаяла ля старту, казала: «Пара!»
Са старонак тваіх па-сыноўску прачула
Зваў матулю Куліну Рыгор Барадулін,

Макарэвіч з таежных карэльскіх дарог
Нёс зіхценне кастроў на «Чырвонкі» парог.
У пакоях тваіх з хваляваннем глыбокім
Нам Маляўка чытаў пра пасёлак Суёкі.

Скуты цяжкай хваробай, ў «Чырвонцы» не раз
Гаварыў аб агністасці Свірка Юрась,
Нафтабудаўцаў песні ў далонях выгушкваў
І паэт, і важак камсамоліі Лукша.

Востраў Зыслаў у полымі мужных баёў —
Гэта Паўлаў Валодзя уславіў бацькоў,
Аб гарачых арбітах у небе вячэрнім
Гаварылі сябрам Сербантовіч і Чэрня.

Мы былі ў Беларусі усёй на віду,
Мы прайшлі праз «Чырвонку» і праз БДУ,
І на нашых шумлівых заўжды аб'яднаннях
Узнімалі патрэбныя часу пытанні.

Знalі мы: не рыфмуюцца сонца і цень,
А сугучны упартасць, упэўненасць, дзень.
Вывучалі граматыкі нашай аснову
Па прыметніках: дужы, сумленны, сталёвы.

Правяралі мы словы заўжды на разрыў.
Пераможцы — нядзельнік, цалінннік, прарыў.

Мы каралі сурова за млявасць і здраду
І былі папаўненню сапраўднаму рады.

Друкавалі нас потым «Звязда», «Маладосць»,
Засталася ж у нас камсамольская косць...
Ў акіяне паэзіі, рыфмамі звонкім,
Мы плылі пад разгорнутым сцягам
«Чырвонкі».

### ...Успамін тысячны

Мой унук, паўпрэд мой на Зямлі,
Гэты успамін калісь напіша:
Як мы працавалі і раслі,
Як мы не шукалі цёплай цішы.

Полымя «Чырвонкі» нашых дзён
Допісы унукавы агорне,
І вятроў успененых разгон
Пранясе іх па дарогах зорных.

Тэлетайпы сонечных вузлоў
Пранясуць «Чырвонку» па планетах.
І не будзе ў ёй агідных слоў:
Абібок, забойца, прайдзісветы.

І «Чырвонка», новая уся,
Будзе толькі вершамі услана,
І Камуны велічны прасцяг
Будзе на усіх мерыдыянах.

Як мы працавалі і раслі,
Як мы не шукалі цёплай цішы,
Мой унук, паўпрэд мой на Зямлі,
У «Чырвонку» праз гады напіша.

## НОВЫ ГОД
## У НАФТАГРАДЗЕ

Рэчыца!
Вазьмі маю руку,
Правядзі па плошчах і па вуліцах:
Можа, дзе у ціхім у кутку
Водгалас майго юнацтва туліцца.
Снег не той, што дваццаць год назад,
І завулкаў ціхіх меней сталася:
Рэчыца —
сучасны Нафтаград —
З новай доляй кроўна паяднalася.
Не равуць «Дубіцеля» гудкі:
Горад мой жыве ўсё болей нафтаю,
З Рэчыцы імчаць нафтавікі
Новы год страчаць працоўнай вахтаю.
Вышкі іх ля Рэчыцы гарацъ —
Дзед Мароз у госці не заблудзіцца...
Вышай вышак трэба тост узняць,
І усё намечанае —
збудзецца.
Тост за чалавека,
што да зор
Славу распрасцёр сваю рабочую,
Тост за чалавека,
што з разор
Трактарамі цішыню выкочвае.
Тост за песні і за песняра,
За настаўніка, апошняга і першага,
Тост за год Стары,
што ля двара
З Новым годам размаўляе вершамі.
Тост за пацалункі да зары,
За дзіця,
што весела кугукае...

Разышліся Новы і Стары —
Сэрца ў Новым з новай сілай грукае.
Рэчыца!
Прымі маю любоў,
Адары сваёю незгасальнаю.
Чуецца: з акон тваіх дамоў
Музыка ліецца карнавальная.
Хай жа лёгкі навагодні снег
Над зямлёю нашай мірна кружыцца,
Хай лунае навагодні смех,
Хай ніводны твар тугой не смужыцца.
З Новым годам,
горад дарагі!
З новым шчасцем,
з новымі сустрэчамі...
Кружацца над Рэчыцай снягі —
Чыстыя,
як мары чалавечыя.

# ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ



## ДВОЕ
## Ў ВОСЕНЬСКІМ САДЗЕ

Холад у небным паглядзе,
Золка падвяла трава.
Двое у восеньскім садзе —
Да галавы галава.

Усё расказалі за лета
І абышлі ўвесь сад.
Шчырай любові прыкметы —
Прагне пагляду пагляд.

Дрэвы, нібы на гравюры,
Розгалас восеньскіх труб —

Вытрымаць націск віхуры —
Цягнуцца губы да губ.

Сэрца маё на далоні,
Хочаш — яго патрымай...
Толькі чаму мне сягоння
Квецены мроіцца май?..

*1984*

## КІДАННЕ КАМЕНЬЧЫКАЎ

Каменьчыкі кідайце ў мора,
Але не ў чужы агарод.
Боль,
Ён адпускае не скора,
Ён з намі і ўночы гаворыць,
Не дзень і не месяц — шмат год.

Каменьчыкі кідайце ў мора,
Заядла «пячыце бліны»,
Любуйцеся сіняй прасторай,
Вачэй закаханых пакорай —
Там шчасце і радасць відны.

Каменьчыкі кідаю ў мора...
А толькі ці выкіну гора?..

*1980*

* * *

Не буду піць ларыйскага віна...
*В. Ваўчок*

Не буду піць ларыйскага віна:
Ў маёй душы і так сто сонцаў ззяе,
Калі армянка,
светлая вясна,
Мяне любоўна братам называе.

Пайду сцяжынкай вузкаю ў гарах,
І мой прыход ёй, пэўна, будзе святам,
І скажа ёй святло ў маіх вачах,
Што буду я сапраўдным, верным братам.

Люблю агонь шыпшыны у гарах,
Магутны вяз, як з нашага Палесся,
Люблю глядзець, як іскры па начах
Ляцяць ад зор — далёкіх цёплых крэсіў.

Не буду піць ларыйскага віна:
Ў маёй душы і так сто сонцаў ззяе,
Калі армянка, светлая вясна,
Мяне любоўна братам называе.

*1958*

## КАЛІНАВЫ ВОДСВЕТ

Калінавым водсветам свеціцца люты.
Аранжавы водсвет вясёлых кастроў.
А вейкі зашэрхлі ад сцюжных вятроў,
І люты пытае, ці добра абуты.

Баюся не холаду —
грознай пакуты
У сэрцы, у думках жуда маразоў.
Цябе не пабачу — дранцвею ізноў:
Калінавы водсвет нясе свае путы...

А дзесьці на беразе Белым каліны
Ярылу чакаюць,
да іх без спачыну
Вятрыскі да Прыпяці з поўдня лятуць.

Юнацкі твой стан не забуду да скону,
Балюе пазёмка над цішай затону,
Гляджу я: каліны кахання цвітуць.

*1986*

## БЕЛАРУСКІЯ ФРАНТЫ

Убачыць у лугах палескіх краскі
Мы тры гады хацелі хоць здаля.
І вось прыйшлі. Здымаем моўчкі каскі
Перад табою, родная зямля.

Але не краскі — попел і руіны,
Знявечаная, раскрывала ты...
І рынулі нястрымнаю лавінай
Наперад Беларускія франты.

Праз трыплексы чырваназорных танкаў
І з-пад рукі пабачылі байцы
Закатаваных у дварах ля ганкаў
І жудасныя печы ў Трасцянцы.

У лютай помсце — з Брэста захавалі! —
Франты няслі фашыстам смерць і жах:
Таўклі, грымотна варам абдавалі
Пад Мінскам і Бабруйскам у «катлах».

І дзень і ноч наперад! Справа, злева
Пажарышчы, спавітыя журбой.
Адзіным, чым магла,— свяшчэнным гневам
Салдат Радзіма бласлаўляла ў бой.

Ішлі франты — і ажывалі краскі,
Стаяў над жытам добры хлебны пах,
І прыпадалі да салдацкай каскі
Чырвоныя істужачкі папах.

Было іх тры.
Яны пайшлі на захад,
Дзе чырванеў крывёю гарызонт...
За кельмы браўся, скінуўшы папахі,
Лясны, Чацвёрты Беларускі фронт.

*1962*

## СТАЛАСЦЬ

Ужо не дацягнуцца да дзяцінства,
Не так даўно юнацтва адгуло,
Расхістана вялікае адзінства,
Расшчэплена вясновае вясло.

Юнацтва крона над дзяцінства кронай
Пабляклым лісцем сцішана гудзе.
Прыслухайся: па восеньскіх загонах
Паважна сталасць па начах ідзе.

Пяро сумуе па вясне забытай,
Ля вокан шум трывожны баравы,
І мой няхітры, на лістах, набытак
З сабой нясуць у вырай жураўвы.

Няхай хоць там, на скрушных поймах Ніла,
Мой сум цяжкі датлее, дагарыць,
Бо у сябе, у Беларусі мілай,
Жыву адною думкаю — тварыць.

Яшчэ так вабяць пульхныя баразны,
І зерня ядрасць свеціць над сталом...
І ўночы час, імклівы і пагрозны,
Спыняю над расшчэпленым вяслом.

*1976*

## ПРЫПЯЦЬ І МАЗЫР

*Анатолю Ярашэўскаму*

Калі спатыкаў я жуду і нуду
І рукі заломваў з адчаю,
Шаптала мне Прыпяць здалёку: «Іду»,
Мазыр падбадзёрваў: «Чакаю...»

Ставала лягчэй у далёкіх краях
Ад гэтай падтрымкі гаючай,
І боль адступаў у руках і грудзях,
І вецер не джаліў балюча.

Гара Камунараў дарыла азон,
Свідоўка — вясковую цішу,
І Прыпяць шумела ля белых акон:
Мазыр захлынаўся ад вішань.

І прыйдзе той дзень,
Калі ўбачу Мазыр —
І плошчы, і засень Свідоўкі,—
Калі не саромецца буду слязы
Ля'чуйных парогаў дамоўкі.

Знікае жуда ў Мазыры,
нібы сон,
І страх тут адзіны, паверце:
Як Прыпяць шуміць каля самых акон —
Баюся ад шчасця памерці.

*1986*

## КУПАННЕ ПІЯНЕРАЎ НА ПЛЯЖЫ САНАТОРЫЯ «ЛЁТЦЫ»

Спяшаюць піянеры гнуткім строем
На санаторны вытаптаны пляж.
Панамкі — ўбок, і гаманлівым роем
Бяруць раку амаль на абардаж.

Дзень над ракой стаіць·шчаслівы самы.
Дзіцячы грай, азёрны краявід...
...Прастрэлены сто раз кардыяграмай,
Стаіць непадалёку інвалід.

*1971*

## ПОМНІК ГЕРОЯМ БРЭСТА

Яшчэ скульптары выбіраюць
Самую лепшую кампазіцыю
І, забыўшы пра сон,
У руках песцяць мёртвую гліну,
Каб яна прарасла
І адвагай і мужнасцю
У бронзе;
Яшчэ рудакопы
Малаткамі выстукваюць
Нетры зямныя,
Каб металы здабыць,
Для ў вяках не ржавеючых сплаваў;
Яшчэ дзед-удавец
Робіць важкі ўзнос
За сябе
І ўзнос за старэйшага сына,
Што загінуў пад Курскам,
За малодшага сына ўзнос,
Які нарадзіцца не змог,
Бо дзедаву жонку
Спалілі эсэсы
У чэрвені тым,
Не ад яркіх суніцаў чырвоным.
Яшчэ...
А мы бачым помнік.
Перад намі — салдаты.
Мы не бачым іх званняў, рэгалій.
Званне толькі адно —
Абаронцы.
Іх нябачны з'яднаў камісар —
Прага помсты.
Кожны твар дарагі:
Пазнаем,
У святым утрапенні застыўшы,

І бацьку, і сына,
І мужа, і брата.
Набрыnялі крывёй гімнасцёркі,
І, здаецца, расплавіцца бронза,
Каб па ворагу пырснуць
З беспатронных ствалоў аўтаматаў.
Толькі сцяг,
Разарваўшы суставы ў бронзе,
Трапеча, высока ўзняты,
Іх вядзе ў неўміручасць,
Нескароных, жывых,
Іх, з адзінай на групу
Гранатай.
Перад тым,
Як узнімем мы помнік
І паставім вачыма на Захад
У крэпасці Брэсцкай,
Скульптар вырве чаку
У апошняй гранаты:
Так зрабілі яны,
Так неўміручасць дыктуе.

*1963*

* * *

А жыць, папраўдзе, я яшчэ не жыў,
Бо жыць чамусьці не было і часу...
Дзяцінства спарахнелыя лаўжы
Я аздабляў з бярозы цёплым квасам.

У дзесяць год, каб сеяць і збіраць,
Я наразаў нялёгкія баразны,

І геаграфію Еўропы вывучаць
Умеў па шрамах землякоў сур'ёзных.

І тую, што семнаццатай вясной
Мяне за кавалера не прызнала,
Я вымыў з думак потнаю ракой
На казахстанскіх хлебных пераралах.

Калі там жыць?! Калі адной рукой
Цяжкія вейкі сонна закрываеш,
А ў гэты час свінцовую, другой,
Будзільнікаву кнопку націскаеш.

Я рэйкі вёў праз бездань і лясы,
Аддзьмухваў камарэчу на падлёце
І мускулаў напятыя трасы
Студзіў, як ствол гарачы, у балоце.

Работы не баюся, бо пляча
Такога не было і ў Антэя...
Баюся слоў нялёгкіх Ільіча:
«Не так ты жыў, а я-то меў надзею...»

*1966*

## УСПАМІН ПРА МАЛАДОСЦЬ

Сплыла па Прыпяці у вечнасць маладосць,
Сплыла і ўжо не вернецца ніколі.
Зрывае вецер на бярозах злосць,
Цвіце язмін на жыткавіцкім полі.

Цвіце язмін... Збалелая душа
Хавае набрынялыя суквецці.

Няма куды і рвацца і спяшаць,
Бо ўсё даўно размеркавана ў свеце.

Але дарогі прыпяцкай сувой
Раскручаны — ён рухае міжволі.
І штосьці робіцца з тваёй душой,
Як бачыш бэз пад Мазырам у полі.

З суквеццяў набрынялых шэпт ідзе
(Ці то не маладосці нашай сховы?):
І песень даўніх водгук на вадзе,
І лодкі нашай скрып пад Барбаровам.

Далёка, любая, нам да завейных сцюж,
Ды зазімак у нашы пальцы коле...
Над Прыпяццю — туман...
I холад вее з груш
На нараўлянскім адзічэлым полі.

*1987*

* * *

Як я з табой загавару,
Калі цябе сустрэну раннем?
Як я узняць змагу гару
Майго кахання?

Ты хмаркай ліпеньскай плывеш
Паміж майго літання,
Нат не кранаючыся меж
Майго кахання.

Стаю на строме дзень у дзень,
Адно пялегваю жаданне:

Злавіць хаця б дрыготкі цень
Твайго кахання!

Злаўлю — і падыму гару,
Каб несці ўдалеч без хістання,
І славіць познюю пару
Майго кахання.

*1982*

## ЖАДАННЕ

Хачу быць снегам на тваім двары,
А восенню — лістотай на парозе:
Бялець да самай весняе пары,
Шумець ля ног у маладой знямозе.

Быць майскай песняй ля тваіх акон
Хачу нясцерпна, радасна жадаю,
То здасца, я, нібы пагодны клён,
Твой сон вартую, твой спакой люляю.

Снег белы адкіпіць у ручаях,
Лістота адсмуткуе і адшэпча,
І песня разляціцца па начах,
І клён сагне натруджаныя плечы.

Няхай... Але шчымлівае святло
Тваіх акон не знікне і не згасне.
...І я ля іх — хоць столькі год прайшло! —
Стаю штовечар, па-юнацку шчасны.

*1986*

## КЛЯНУСЯ ПРЫПЯЦЦЮ

Клянуся Прыпяццю — чаротам і лазою,
Іх векавечным пошумам, журбой,
Клянуся Прыпяццю — крыштальнаю вадою
І непрымятай зыркаю травой.

Клянуся Прыпяццю — гудкамі цеплаходаў
І соснамі на строме векавой,
Клянуся Прыпяццю — шаленствам крыгаходаў
І Мазыра прывабнаю красой.

Клянуся Прыпяццю — зялёнай цішай вёскі,
Што сотні год глядзіцца ў люстра вод,
Клянуся Прыпяццю — ружоваю палоскай,
Што сведчыць сонца мірнага усход.

Клянуся Прыпяццю — нястомнаю работай,
Што вершыцца на слаўных берагах,
Клянуся Прыпяццю — яе цяплом і потам
І серабром у чэсных невадах.

Клянуся Прыпяццю — і Случчу, і Славечнай,
І Пціччу, што з'ядналіся у ёй,
Клянуся Прыпяццю — маёй калыскай вечнай
І радасцю нязмеранай маёй.

Клянуся Прыпяццю — як іменем любімай,
Што я шапчу з лірычнага чаўна.
Клянуся Прыпяццю... А Прыпяць, як Радзіма,
Адна — у свеце. І ў мяне — адна.

*1987*

## У ГОРАДЗЕ ТВАІМ...

Ў горадзе тваім усходы чырванейшыя,
У гародчыку — маліны саладзейшыя,
Пад вокнамі тваімі — птушачкі-пяюхі,
Я іх не раз у садзе тваім слухаў.

Ў горадзе тваім — мяцеліцы бялейшыя,
У гародчыку — марозы найжвавейшыя,
Пад вокнамі тваімі — снегіроў падскокі,
З табой я любаваўся імі ў час далёкі.

Ад тых малін — гаркавы успамін,
І снегіроў не бачыў сем гадоў...
І ўсё з-за нашых
Узаемна горкіх слоў.

*1986*

## ЗАЎТРА МНЕ

Заўтра мне дзевятнаццаць год,
Буду я заўтра вясёлы і смутны.
Сэрца сабралася моўчкі ў паход,
Дзе на парог цень кладзецца нячутны.

Мне б паглядзець на завею ў лясах,
З лісцяў апалых і ветрамі гнаных,
Мне б адпачыць на імхах і на пнях,
Там жа маленства сустрэць нечакана,

Позняй сцюдзёнай абмыцца расой,
Бразнуць у вокны хаціны, якая

Разам з старэнькаю маці маёй
Сына і пісем з цаліннай чакае.

Ці не вялікае шчасце, калі
Гэтае змалку любімае свята
Тут, на народжанай, юнай зямлі,
Я ля бурта сустракаю з лапатай.

Ты нараджаешся сотні гадоў
З кожнаю новай сваёй перамогай...
Можа, за гэта багата гадоў
Зычаць табе ля бацькоўскіх парогаў.

*1956*

* * *

Лісцёвая замець адчайна стаіць ля парога,
Юнацкія мары і ў думках ужо не лаўлю...
Будзь простай і чыстай, асенняя наша дарога,
Адчай адступае, калі ты мне шэпчаш: «Люблю...»

Мелодыі лета сплываюць на хвалях празрыстых,
Пазначаны шлях паміж хмараў майму жураўлю.
Любімая крыху баіцца асенняга свісту,
А я не зважаю на пошум вятроў галасістых,
Я любай на вуха шапчу: «Дарагая, люблю...»

*1984*

# ВАСІЛЕВІЧЫ

Васілевічы —
                    горад вясковы —
Між лясоў і тарфянікаў туляцца.
Як у Індыі, ходзяць каровы
Па даўжэзнай цэнтральнай вуліцы.

Што было —
                    адшумела, як лісце,
Ды няма ва ўспамінах прагаліны:
Адну школу завуць, як калісьці,
Імем Бойкі, другую — Сталіна.

Толькі глуха шумяць таполі,
Цёплым пухам па вулачках сцелючы.
Што тут ёсць —
                    не даўмецца ніколі! —
Ад былое райцэнтраўскай велічы?

З гарадка па юнацкай дарозе
Я збіраўся па славу сусветную.
Пра паэзію думаў, не прозу,
Задыміўшы ўвесь тамбур «Ракетаю».

Гарадок у жыццё пазірае,
Бо жыты ходзяць жоўтаю лаваю...
Адпачыць генерал прыязджае
Ці членкор, абцяжараны славаю.

*1987*

## МУЗЫЧНАЕ ВУЧЫЛІШЧА

Ужо ў шэрань
вуліцы адзеты,
У парк паўзе
трамвай
амаль пусты,
А тут,
як утрапёныя,
кларнеты
Пра лістапад
спяваюць
залаты.
Затым да іх
праз нейкую хвіліну
Вышэй паверхам,
голасам ніжэй
Задумліва
ўплялося піяніна —
І песня
разліваецца гучней.
Вось уступаюць
скрыпкі галасіста —
Паверх чацвёрты
аб сабе даў знаць.
І, зблытаўшы Бетховена
і Ліста,
Прахожыя
ўтрапёныя
стаяць.

*1959*

## АРМЕЙСКІ СЦЯГ

Забудуцца і зарастуць травою
Былая радасць і былы адчай —
Ніколі ж не забудзецца такое,
І параўнанняў нават не шукай:

На страявым плацу ў парадным бляску,
Працяты ветрам, полк забранзавеў,—
Вайной не патрывожаныя каскі
І кампалка, што з той вайны ссівеў.

Застылі ў строгім інтэрвале роты —
З ўсёй краіны юная братва,
А цішыня, што чутна нам, як боты
І праз бетон пашчыпвае трава.

Удых палкоўнік робіць глыбачэзны.
«На сцяг — раўненне!» — выдыхнуў на нас.
І ўсё на свеце адлятае, чэзне,
І замірае на імгненне час.

З-за павароту, з-за вугла казармы,
Сабой увесь запоўніўшы прасцяг,
Сатканы з сонца, чырвані ды барвы
Плыве на полк зачаравана сцяг.

Які ўрачысты сёння сцяганосец —
Ён цэлы полк трымае у руках!
І жылкі б'юцца ў нас ля пераносся:
Парахавы плыве ад сцяга пах.

А сцяг бліжэй — крыві гарачы згустак,
Вось ён ля нас — прабіты у баях.
Зямля і неба зніклі, стала пуста,
І толькі сцяг у сэрцах і вачах.

Забінтавала вусны нашы смага,
Ды на каманду вельмі чуйны строй:
Скажы палкоўнік — і пад гэтым сцягам
Адразу з плаца рынемся мы ў бой.

*1981*

* * *

Дзяўчынка-першакласніца
Над сшыткам
Заплакала гарачымі слязамі,
Бо на бялюткім аркушы паперы
Накрэмзала не тое,
Што патрэбна.

Як часта мы,
Багатыя на вопыт,
Зляпіўшы верш за нейкія хвіліны
Пра лісце, першы снег і пра марозы,
Ад радасці
Далоні пацiскаем.

Вось каб і мы,
Схіліўшыся над вершам,
Убачыўшы у ім няўклюды-словы,
Іх выпякалі лютымі слязамі,
Дык стаў бы свет
Шырэйшы і святлейшы.

*1965*

## НАВАГОДНЯЕ

Звіні снягамі, Рэчыца, ў завеі,
У белы вэлюм дрэвы аздабляй!
У сэрцах б'юцца новыя надзеі,
Душу любую поўняць цераз край.

Мы бачым шчасця новага прыкметы,
Мы чуем поступ велічных падзей,
Таму так многа думак запаветных
І разам з імі — радасных надзей.

Адчынім дзверы году Маладому,
Душу раскрыем мору цёплых слоў,
Прашэпчам «дзякуй» знікламу Старому,
Тост улюбёны ўзнімем за сяброў.

А потым тост — за Новы год жаданы,
За любую, што вуснамі заве...
Глядзіце: у навагоднім акіяне,
Як карабель, ўся Рэчыца плыве...

*1980*

## УСПАМІН ПРА ЮНАЦТВА

Стаю на левым беразе Дняпра,
А Рэчыца — насупраць. Вечарэе.
Дамоў дабрацца самая пара,
А човен знесла. Плаваць я не ўмею.

Гусцее змрок. І недзе ў вышыні
Кажан нябачны крылы распраўляе.

Сярод надрэчнай пахкай цішыні
Жуда паціху ў сэрца запаўзае.

Туды пабегчы б, дзе прычал, паром,
Дзе правы бераг адчуваеш тросам!
Кажан махнуў апошні раз крылом,
На цёмнай сцежцы набрынялі росы.

Я мчаўся, ўвесь апырсканы расой,
З паромшчыкам цягнулі трос на змену,
Не ведаў я, што плыў у горад той,
Дзе на бяду сваю цябе сустрэну.

*1982*

## ТВАЁ ІМЯ

На кожнай бярозе,
Што Прыпяць у белы
Адчай захмялілі,
Імя тваё шэпча
Расхлістаны вецер.

На кожную водмель
З пяску залатога
Удзень і уночы
Імя тваё коцяць
Сіпюткія хвалі.

Вятры не замоўкнуць
І хвалі не сціхнуць
Ніколі, ніколі —
Таму тваім імем
Не раз захлынуся.

І з гэтага верша
Шапчу апантана
І ветру і хвалям
На Прыпяці сіняй:
Шуміце, шуміце...

*1982*

* * *

Мяне у горад не зацягне
Любы асілак-лесавік:
У мітусні яго, што ў багне,
Я падыму,
                    як хлопчык,
                                        крык.

Яго неонавыя рэкі
Не маюць бухтаў і віроў,
Яго шматлікія аптэкі
І легіёны дактароў

Не знойдуць той пілюлі горкай
Маёй вясковай галаве,
Каб на асфальтавым падворку
Не марыў я
                    аб мураве.

*1980*

## РОЗДУМ

*Аляксею Краўчанку*

Як лёгка і хутка пісалася нам,
Калі шчыравалі празрыстыя рэкі,
Калі так прывольна было бацянам,
Калі лес як жарт успрымаў нашы здзекі,
Калі ля дарог зеляненіся лекі,
А ў Мінску было, можа, дзве-тры аптэкі.

Як цяжка і мудра пяро цэдзіць кроў,
Калі не зіма, а суцэлкам — адліга,
Аптэкі вакол, а не пошум дуброў,
Сірэны машын, а не рыкі звяроў,
І тысячы некалі юных дубоў
Пайшлі на выданне Чырвонае кнігі.

*1981*

## МАТУЛІ

Не гатуй, матуля, на вячэру
Мой любімы з яблыкам пірог,
Не глядзі з надзеяю па дзверы,
Не выходзь на скрыўлены парог.

Не рыхтуй на вешалцы драўлянай
Пад шынель салдацкі цвік-кручок.
І не думай у блакітны ранак
Хоць здалёк убачыць сынаў крок.

Не заві, матуля, на бяседу
Чарнавокай дзеўчыны маёй.

...Ты не чуеш: на вучэнне еду
Цёмнай ноччу з ротаю сваёй.

Веру я, што станеш перад хатай
І пад ззянне лютаўскіх снягоў
Самаму любімаму салдату
Пажадаеш добрага ўсяго.

*1957*

* * *

Жылося добра мне на свеце гэтым...
Я мала спаў, каб раптам не праспаць
Таго, што шчасцем — па усіх прыкметах —
Прывыклі людзі шчыра называць.

Я не праспаў ні службы у салдатах,
Ні казахстанскай цвёрдай цаліны,
Ні той жанчыны з позіркам крылатым,
З якой пайшоў у бездараж вясны.

Я не праспаў двухзменнае работы
І горкіх чэснай мудрасцю парад,
І той чаргі, калі была турбота
За нашу праўду стаць у першы рад.

Я не праспаў ні прыпяцкіх усходаў,
Ні ласкі незабыўнай БДУ,
Ні свят, ні гора роднага народа,
З якім на славу і на смерць пайду.

*1980*

## ПОМНІШ, КАЛЯ ВОЗЕРА КУМІСІ...

*Віталю Лачашвілі*

Помніш, каля возера Кумісі
Трое сутак мы зямлю дзяўблі...
Сонца ззяла ў прамяністай высі,
На руках шчымелі мазалі.

Мы трывалі словамі камбата:
«На вучэнні так, як на вайне»,—
Акапаем к вечару гарматы,
А тады,
магчыма,
адпачнем.

Я не ганіў грунт ваш камяністы,
Ганіў сон, спакусу са спакус.
Ломам грыз зямлю грузін плячысты,
А рыдлёўкай — дужы беларус.

А пасля загад прыйшоў:
«Даволі!»
У абдымку спалі на зямлі...
Грузія вятрам сказала ў полі,
Каб не дзьмулі нам пад шынялі...

Мы даўно з табою разышліся,
Ды ніхто сяброўства не растрос.
Хоць акоп ля возера Кумісі
Макам горным, ведаю, зарос.

*1958*

## 1946 ГОД

Тады ва ўсіх бурчэла ў жыватах...
Прыйшоў у Васілевічы ў сталоўку
Старэнькі ў зрэбных чысценькіх штанах,
Пакінуўшы няблізкую дамоўку.

Давалі хлеба толькі дзвесце грам
К баршчу,
а ён празрысты быў, як людзі,
А дзеду трэба пару кілаграм:
Не пад'ясі — адкуль жа сіла будзе.

Дзед з'еў без хлеба порцый пяць і пяць,
А лустачкі — каштоўную прыдачу
Ён пад сталом у торбу захаваць
Сумеў усе, каб чорт які не ўбачыў.

Узвіўся касманаўт у сіняву
І з тубы харч касмічны выціскае.
Я ж бачу дзеда:
гэта ён яму
У год галодны ў торбу хлеб хавае.

*1965*

## УРОЧЫШЧА НЕХАРАНЬ

*Івану Навуменку*

У Нехарані будзе лістапад,
Але чакае замець жаўталісця.
Глыбей заходзьце, каб ужо назад
Да вечара не адшукалі выйсця.

Дажджы грыбныя выгналі з зямлі
На верасы рудыя пазументы,
Баравічкі на досвітку ўзышлі,
Бы кафедры лясное асістэнты.

І Вы над імі з сеткай гарадской
(Кош даваенны дзесьці на гарышчы) —
Ківаеце ссівелай галавой:
Такую прыгажосць пад корань нішчыць!

І дрогнуў у руцэ кірпелік-нож:
Хай лезуць асістэнты ў кандыдаты...
...Да Бацькавіч дабегчы б басаног,
Да матчынай, пад роснай грушай, хаты.

*1980*

## СТАРЫЯ ДАРОГІ

Былі маёй вы першаю трывогай,
Бо журналіст знаёмы гаварыў:
«Жаніцца хочаш? Едзь, брат, у Дарогі!
Лепш у пачатку майскае пары».

Лячу да вас па мяккаму гудрону,
Стаў загадзя у вокны зазіраць:
Хутчэй ускрыць лясоў канверт зялёны
І вас, Дарогі, цалкам прачытаць.

І вось хаджу, п'янею ад каштанаў,
Тут не баюся трапіць пад трамвай,
І атэістаў нашых ціха ганю:
На гэтым свеце нават бачу рай.

Ты будзеш, горад, светлы, мураваны,
Увысь і ўшыр як на дражджах расці,
Бо мой равеснік з вежавага крана
Цябе не раз стралой перахрысціў.

Сваю нявесту бачу я не з кельмай
(Хоць крытык мой хацеў бы толькі так),
А у сукенцы простай і вясельнай
І прыгажэйшай за чырвоны мак.

Дзе буду я: за морамі ці блізка,
І колькі век адпусціць мне гадоў —
Мяне пацягне ў добрую калыску
Старых шляхоў, усмешак і бароў.

*1964*

## ТВОЙ МЕРЫДЫЯН

Тут цягнік стаіць не больш хвіліны,
Твой нясу на выхад чамадан.
Напаследак мне скажы, дзяўчына,
Не імя, а свой мерыдыян.

Я прайду зямлю. Мерыдыяны
Павуціннем звіснуць на нагах,
Толькі твой, зялёны і жаданы,
Травамі і кветкамі прапах.

Я іду, ад шчасця крыху п'яны,
На сустрэчу блізкую з табой,
І Зямлі старой мерыдыяны
Цягнуцца пакорліва за мной.

І хачу я, каб у дзень жаданы
Ты без хусткі выбегла у двор.
Тут сышліся ўсе мерыдыяны
Геаграфіі наперакор.

*1963*

## СТАНЦЫЯ РЭЧЫЦА

Станцыя Рэчыца.
Гэля-буфетчыца.
Пеннага піва бакал.
Кепка калматая.
Бочка пузатая.
Месца сустрэчы — вакзал.

Ў кветкі сукеначка,
Быццам паненачка,
Ты выплывала, як сон.
Піва не выпіта —
Гэля сярдзітая.
Сэрца трапеча, як звон.

Гэля на пенсіі,
Кажуць, гартэнзіі
Росціць памерам з бакал.
Толькі без памяці
Мкнуся праз замеці
Я да цябе на вакзал.

*1976*



Твая рука ў тваім акне,
І жоўты ліст да шкла прыбіты.
І да мяне рука імкне,
І шчасця міг даўно пражыты.

Няўжо пражыты? Недзе Пціч
Чакае ўсё ў смузе чаротаў.
Прымі руку, мяне пакліч
І зачыні мацней вароты.

Мацней! Славечны серабро
На нашы скроні завітала.
Надзеі светлае таўро...
А мо яшчэ не ўсё прапала?

Не ўсё. Бо Прыпяці адчай
У нашых сэрцах захлынецца.
...З мазырскіх гор, глядзі, ручай
Ляціць,
Бурліць,
Кіпіць,
Смяецца...

*1987*

## МАЯ ГАЛГОФА

Ты зноў на Галгофу
Мяне пасылаеш...
Каторы ўжо раз
За пятнаццаць гадоў:

Хадзіў я туды
І ў ботах салдацкіх,
І ў кедах студэнцкіх,
І ў модных штыблетах,
Адтуль жа вяртаўся
Заўжды басанож.
У кожным чарговым
Сваім падарожжы
Па скалах крамністых,
Па сцежках наждачных
Я думаў, што варта
Было б ля падножжа Галгофы
Стварыць — хоць маленькі! —
Былога абутку музей.
Каб кожны мой сябра,
Такі ж, як і я, закаханы,
Найперш, чым пачаць штурмаваць
Камяністую гору,
Убачыў, якія выдаткі
На плечы бярэ.
Ды веру я цвёрда,
Што гэты музей
З пашчапаным абуткам
Наведваць не будуць,
А будуць упарта мінаць.
Ты зноў на Галгофу
Мяне пасылаеш.
І я ў чаравіках,
Якія дастаў
Па вялізнаму блату,
Як школьнік,
Слухмяна іду,
Бо дзесьці праз месяц
Падорыш ты мне
Абяцанае шчасце —
Адзін пацалунак гарачы,

Які гарачэй за каменне
Вяршыні Галгофы,
Куды я — ты чуеш? —
На досвітку шэрым
Пайшоў.

*1971*

## ВЯСКОВЫ ЭЦЮД

Над белай, лагоднаю грушай
Узносіцца з коміна дым,
І сонца нясмелае сушыць
На лісціках кроплі вады.
Праходзіць па вуліцы статак,
Зруб свеціцца радасцю рос.
І пах падгарэлых аладак
Казыча падпасвічу нос.

*1957*

## СЯСТРЫ

Дзе той інстытуцкі інтэрнат,
У якім сястра мяне чакае:
Можа, водпуск выслужыць салдат
І з краёў далёкіх завітае.

Шаснуць дзверы, пойдзе ціхі стук,
Заскрыпіць падлога пад абцасам.

Твой пакой цяплом дзявочых рук
Стрэць гатоў мяне, як даўнім часам.

Да стала, як водзіцца, сядай,
Прынясуць сяброўкі кубкі, міскі...
Толькі вось у чым, сястра, бяда:
Не папаў я ў адпускныя спіскі.

Ты закончыш хутка інстытут,
Працаваць табе у шчасці, міры.
Так патрэбна, што служу я тут,
Ну, а ты... мне пішаш пісьмы шчыра.

Пройдзе год... Студэнцкі інтэрнат
Першакурсніц рой запоўніць новы...
Трэба так, каб быў твой брат салдат
Да любога выкліку гатовы.

*1957*

## НАВАЛЬНІЦА НА ПРЫПЯЦІ

Гнутай бляшанкай старой
З лодкі ваду адліваю —
Ліпеньскай цёплай вадой
Прыпяць маю напаўняю.

*1971*

## ЧУРЧХЕЛА [1]

Смачнай чурчхелай
Мяне не частуй —
Лепей у вусны
Вазьмі пацалуй.

Ежы ніколі
Смачнейшай не еў,
Дзеўчын, чым ты,
Прыгажэй не сустрэў.

Дзе ты, красуня,
Расла паміж гор?
Дзе на сукенку
Ты выткала ўзор?

Смачнай чурчхелай
Мяне не частуй —
Лепей у вусны
Хоць раз пацалуй.

*1956*

## ЛІСТ ДА ЗАПАТРАБАВАННЯ

У горадзе,
закіданым снягамі,
Каля стрыножаных завеяй клёнаў
Будынак пошты просценькі калее
З акенечкам «да запатрабавання».

---

[1] Чурчхела — грузінская нацыянальная страва.

У гэты горад восенню
паслаў я
Адзіны ліст,
напоўнены трывогай,
З надзеяю,
што ты яго папросіш
Ў акенечку «да запатрабавання».
Вось-вось зіма
яшчэ мацней затрубіць
У снежны рог —
зазыўна і нясцерпна,
Каб ты хутчэй
сцяжынку пратаптала
К акенечку «да запатрабавання».
А ліст штоночы
пакідае скрынку
І па будынку кружыць апусцелым
І, стомлены, пад ранак
залятае
У акенечка
«да запатрабавання».
...Адкуль жа ведаць мне,
што ўжо ніколі
У гэты горад
ты не завітаеш,
Каб вызваліць
мой бедны ліст з палону
Акенечка «да запатрабавання».

*1971*

## НАЧЛЕГ У ДОМІКУ ПЕРАРОЎСКАГА БАКЕНШЧЫКА

*А. Р. Галавачу*

Пахне прывялым аерам
І малачковым святлом,
Вецер крылатыя дзверы
Кратае пругкім крылом.
Бакена срэбнае вока,
Прыпяць спяшаецца ў ноч.
Ранак ужо недалёка,
Сон залягае наўзбоч.
Дрэмле бязважкае цела,
Толькі здаецца парой:
Прыпяць ля ног прашумела
Блешняй цякуча-цяжкой.
*1978*

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Адраявала мройная душа
На раздарожжах і Вясны і Лета,
Цяпер нясе шалёная шаша
На апусцелы Восені палетак.
Прыціхлых хвой зялёная імжа,
Старых бяроз царкоўныя уборы,
І верасоў нязвыклая іржа,
І лёскат несуцішны ад матораў.
Ні горычы, ні скрушнасці няма,
І цішыня, нібы пасля авацый...
Разлеглася за Восенню Зіма —
І ад яе нікуды не схавацца.
*1984*

## ПАДАРОЖЖА ЗА НАРОЎЛЮ

Зноў сакавіцкі дзень прывучаны
Да першароднай нематы...
Якія еднасць і сугучча:
Нароўля, Прыпяць, я і ты!

Смугой надрэчнай пахнуць далі,
Далёка шэрыя платы.
Прапалі ўсе, хто заміналі,
І толькі — Прыпяць, я і ты.

Мяне, што камень той, глынае
Разводдзе сціхлай нематы.
Мяне няма — ў табе знікаю...
Ёсць толькі ты. Ёсць толькі ты...

*1985*

* * *

*Анатолю Кудраўцу*

Салоўка над Прыпяццю свішча
Над плоймаю нашых гадоў...
Паехалі, дружа, на Плішчын,
Паехалі у Перароў.

Там травы мякчэй, чым калісьці,
Вада там святлей і цяплей,
Там вербаў надплішчынскіх лісце
Журлівей, шчырэй, зеляней.

Мы вуды закінем у Плішчын:
Эх, каб залатую падцяць!

Сярэбраных рыбак ігрышча,
А вось залатой не відаць.

Навошта яна, залатая?!
Прабачыць няхай Перароў:
Аколіца ціха гукае,
Заве на радзіму, дамоў.

Мы дружна па Ольсе вяслуем,
Як быццам гадоў не было...
У Ліпніцы музыку чуем,
У Будневе бачым святло...

*1985*

## ПЦІЧ, ПРЫПЯЦЬ, СЛАВЕЧНА

Тры рэчкі
Каханне маё гадавалі
У гэтым жыцці хуткацечным.
Тры рэчкі, тры плыні дваіх абдымалі —
Пціч, Прыпяць, Славечна.

У пошум Славечны
Я першым заходзіў,
А следам ты — зоркаю млечнай,
З нас кожны не плыў —
сэрца сэрцам лагодзіў —
Пціч, Прыпяць, Славечна.

У ззянне Пцічы
За руку цябе ўводзіў
І лашчыў дрыготкія плечы.

На водмелях цёплых з табой карагодзіў —
Пціч, Прыпяць, Славечна.

У Прыпяці глыб
На руках цябе ўносіў
І марыў аб шчасці спрадвечным.
Не веры́ў, што ласка ўпадае ў восень —
Пціч, Прыпяць, Славечна...

*1985*

## НА ВОЗЕРЫ

Ловіць на возеры рыбу малое —
Быццам прымерз паплавок.
Бачу:
        ў малога вудзільна цяжкое,
Рыба мінае кручок.

Хлопчык вудзільнам няўклюдным турбуе
Сінюю глыбу вады.
Рыба гуляе, рыба не чуе.
Столькі ў малога бяды!

Хлопчык, здаецца мне, зараз заплача,
Тузае свой паясок:
Побач мая серабрыстая ўдача
Ўспеніла жоўты пясок.

Любы, тут болей я вудзіць не буду,
Хочаш — і рыбу аддам.
Дай узамен толькі вуду-няўклюду,
Твой непаўторны няўцям.

*1976*

## НОЧ

На грэбень гор сядае месяц поўны,
Паволі апускаючыся ўніз,
Аблокі чэшуць грудзі з белай воўны
Аб гор патрэсканы карніз.

Падаўся месяц ці да зоркі ў госці,
Ці, можа, змену сонцу здаць...
І я гатоў на пагранічным мосце
Ад гузіка і да штыка заззяць.

*1957*

## МАЗЫР

Ля Прыпяці дужай спыніўся,
Пад шум прыбярэжнай лазы
Да самай вады нахіліўся
Мой сонечны горад Мазыр.

Садоў панадпрыпяцкіх квецень
Шугае у вокны дамоў,
Вызваньваюць пчолы над веццем
Адвечную песню без слоў.

Мне сорам і кветку адную
Сарваць на красе гарадской,
Здаецца, дакоры пачую
Ад вуліц, абходжаных мної.

Мой горад! Цябе я пакінуў,
Каб тут, на граніцы, без сну,

Шынелем сваім штохвілінна
Прыкрыць твой спакой і вясну.

Мой горад, вярнуся я ўлетку
З далёкіх краёў, дзе служыў.
І веру: з садоў тваіх кветку
Сумленна я тут заслужыў.

*1957*

## АДЛІГА

Адлёг мароз — і на душы адлегла.
Вяртаюцца на выпасы вятры,
Ажыў адразу верабей нягеглы,
Лятуць, нібы паштоўкі, снегіры.

Твой дом чакае сонца і спакою,
Твой дом чакае юнага цяпла.
Здаецца: ўсе няшчасці за гарою
І ты са мной да Прыпяці пайшла.

*1985*

## СКАЖЫ...

Скажы, што кахаеш мяне,—
І Прыпяць шырэйшаю стане,
І сонца між воблакаў гляне,—
Скажы, што кахаеш мяне.

Скажы, што кахаеш мяне,—
І Прыпяць сінейшаю стане,
Аж бэз да зімы не завяне,—
Скажы,
што кахаеш мяне.

Скажы, што кахаеш мяне,—
І Прыпяць глыбейшаю стане,
І сонца на захадзе ўстане,—
Скажы,
што кахаеш мяне...

*1985*

## 9 МАЯ 1945 ГОДА

Абветраны твар Перамогі,
Задымлены твар Перамогі,
Зажураны твар Перамогі
Цалуюць сіроты і ўдовы
На родных палях і парогах.

Ушрамлены твар Перамогі,
Прастрэлены твар Перамогі,
Апалены твар Перамогі
Цалуюць байцы, генералы
На мірных прыціхлых дарогах.

Абвуглены твар Перамогі,
Знявечаны твар Перамогі,
Астуджаны твар Перамогі
Цалуюць нядаўнія вязні,
Адолеўшы жудасць знямогі...

Таму такі чысты
Твой твар, Перамога,
Як твар нашых матак,
Каханых жанчын
І сябровак.

*1985*

* * *

Ужо даўно табе за трыццаць,
А ты не замужам яшчэ,
І па начах табе не спіцца,
І па шчацэ сляза цячэ.

І жытна кожнаму засеку,
І у хляве вішчыць прыплод,
Але аб любым чалавеку
Сумуеш ты не першы год.

Сумуеш посумам каліны,
Што адцвітае ў гушчары,
Сумуеш посумам маліны,
Што загарчэла без пары.

Прадай-аддай прыплод, засекі,
Хай вецер свішча па вуглах,
Знайдзі ад слёз такія лекі,
Што збераглі мурожны пах.

Бяжы, ляці ў той дом высокі,
Дзе п'е ён горкае віно...
Ён столькі зведаў, адзінокі,
І даравяў табе даўно.

*1977*

## Я ТАК ЛЮБЛЮ...

Навошта радасць і адчай
Мне дорыць гэты позірк сіні?
А шчасце льецца цераз край —
Я так люблю дачку Аксінні.

Навошта вы прыйшлі здаля,
Былыя вёсны-пераЗвоны?
Аж супыняецца зямля —
Я так люблю дачку Лявона.

У той стары, за вёскай, сад
Лячу пры кожным успаміне,
Крычу, шапчу, бо вельмі рад —
Я так люблю дачку Аксінні.

І не глядзіце на мяне
Прашу, сябры, так падазрона,
Жыву я зараз, як у сне,—
Я так люблю дачку Лявона.

Не дзве мне сняцца па начах,
Не дзвюм малюся несканчона:
Яна адна, мой мілы птах,—
Дачка Аксінні і Лявона.

*1977*

## МАЦІ

Кінь жа, маці, кужаль ткаць старанна,
Кроснамі хай грукае вясна.
Сын твой сыты, сын твой і прыбраны,
Бацька сынаў — ротны старшына.

На зямлі хай рота начавала,
Хай шынель не вельмі добра грэў.
Ведай, маці, з гэтага прывала
Сын адразу неяк пасталеў.

Можа, бульбы цёплай з агуркамі
На сняданні сын не паспытаў,
А насілі кашу кацялкамі
Цераз пяць дарог і пераправ.

Хай для сына неба стала дахам,
Хай яму паўсвета абхадзіць —
Сын твой можа паспрачацца з птахам,
Да цябе са службы прыляціць.

Кінь жа, маці, кужаль ткаць старанна,
Кроснамі хай грукае вясна.
Сын твой сыты, сын твой і прыбраны,
Бацька сынаў — ротны старшына.

*1958*

## ГОМЕЛЮ

Тут ніколі не адчуеш слабасці,
Сонца рукі цягне к галаве.
Недзе побач з вуліцаю Радасці
Радасць тугакосая жыве.

Хоць і чараўніцы не стараліся,
Нам не жыць адзін без аднаго.
Бачыш, мы за рукі з ёй пабраліся —
Пажадай нам добрага ўсяго.

Не кажы нам слова развітальнага,
Вернемся, калі паклічаш ты.
Толькі дай нам у дарогу дальнюю
Мудрасці тваёй і прастаты.

*1961*

## МУЖЧЫНАМ

Адкладзіце, мужчыны, надзённыя справы,
Хто з вас дзеяч дзяржаўны ці нейкі там чын.
Паглядзіце: праз снег прабіваюцца травы,
Каб шумець дыванам пад нагамі жанчын.

Паглядзіце: на вербах, па-зімняму ніцых,
Сонца робіць работу, забыўшы спачын:
Каташкі ювеліравца на завушніцы
На ружовыя мочкі харошых жанчын.

Навастрыце свой слых: каля рэчак напятых,
Ля шумлівых руччоў у прадоннях нізін
Пачынаюць лясы-дырыжоры санаты
Пад харошае свята цудоўных жанчын.

Навастрыце свой слых: і праз панцыр палеткаў,
Прарываючы шэрань сумётаў-аўчын,
Узнікаюць азябла танклявыя кветкі
На букеты у рукі чароўных жанчын.

Адкладзіце надзённыя справы, мужчыны,
Паглядзіце: праз белы заслон аблачын
Прабіваецца сонца патокам няспынным
На вясёлыя твары каханых жанчын.

*1983*



Семнаццатага верасня далёкага года
На вуліцы Семнаццатага верасня,
Якую мазыране завуць Свідоўкай,
Мы гаварылі пра туманныя рэчы.

Наогул туману было шмат
У галовах нашых над соннай Свідоўкаї,
І мы не разгледзелі зіхоткую зорку,
Якую называюць зоркай кахання.

Семнаццатага верасня нядаўняга года
Я прайшоў па прыціхлай Свідоўцы...
Я ведаю: чатыры зыркія агні твайго дома
Толькі водбліск той зоркі далёкай.

*1965*

## СУНІЦЫ

*Светлай памяці Жанны Марыновіч,*
*былой выпускніцы хімфака*

Шуміць, шуміць, шуміць на Беларусі
Зялёнай кронай дрэва БДУ...
Гады ідуць, і заўважаю ў скрусе:
Лісточкаў многіх болей не знайду.

Вось той апаў, а гэты кружыць ціха,
І праз хвіліну дол яго глыне.
Бывае год — як бы якое ліха:
Траву галінай цэлаю прымне.

...Відаць, яна любіла па суніцы
Хадзіць, нанізваць на травінку іх:

На мулкім ложку мінскае бальніцы
Яна прасіла роспачліва ўсіх:

«Суніцы... прынясіце мне... суніцы...
Хоць паглядзець... я ж... есці... не ма-гу...»
І ты, усемагутная сталіца,
Іх не знайшла. І быццам у даўгу.

Ты ёй звышмодныя давала лекі,
Яна ж — ад кроны закружыла ніц...
Каб знālі беларускія прасекі,
Яны б і ў май наспелілі суніц.

Няма лістка... Вось выспеюць суніцы...
Сціскаю сэрца з горыччу ў кулак...
...У беларускіх школах выпускніцы
Заявы пішуць: БДУ, хімфак...

*1975*

## ЧАЦВЁРТАЯ БЯРОЗА

Чацвёртай няма,
каб сяброўкай назвацца,
Да тых прыхінуцца, да трох.
Ёй доўга яшчэ праз зямлю прабівацца —
Праз жвір, праз каменні, праз мох.

Унуку майму, што з мазырскіх пагоркаў
У даль паглядзіць з-пад рукі,
Праз прызму слязы нерасталай і горкай
Малюнак паўстане такі:

Зялёныя грывы — з прыгнутага вецця,
І вецер да грываў прырос:
Ляціць у Хатынь і яму прама ў сэрца
Квадрыга палескіх бяроз.

*1981*

## ЛІСТ НА МАШЫНЦЫ

Пісала часта маці мне, салдату,
Што я ад каліграфіі адвык...
На перакуры, пад ствалом гарматы,
Зляпіў пісьма кароткі чарнавік.

Зайшоў у штаб да земляка з-пад Ельска
І папрасіў надрукаваць той ліст.
З паспешлівай дакладнасцю армейскай
Адляпаў на машынцы мне штабіст.

Як земляку затым на развітанне
Прашыў канверт кароткаю чаргой.
Салдацкі ліст: здароўе, прывітанні.
Салдацкі ліст, ды почырк жа не мой.

Прыйшоў адказ: ад родзічаў паклоны,
У водпуск прыязджалі сябрукі.
Але ў канцы: «Апошні ліст казённы,
Пішы мне лепей, сынку, ад рукі».

*1959*

## ТУНЕЛЬ

У затхлай цемры глуха стогнуць колы.
Сіпіць машына, быццам сто вужоў.
І ты на міг стаеш якімсьці кволым
У гэтым царстве нудных капяжоў.

Ручэй шумлівы б'ецца між камення.
Сціраюць колы з рэек буйны пот,
У цёмных нішах дзіўныя стварэнні
Скрывілі дзікім смехам вузкі рот.

Штуршок апошні. Гулка строчаць колы.
Прыліпла сонца к рэйкам — не сарвеш.
Пад вецер грудзі: дужы і вясёлы,
Махаеш людзям і пяеш, пяеш.

*1961*

## ЕДНАСЦЬ

З якімі я людзьмі жыву на свеце!
У космас палунаў учора той,
А гэты жыта сее на планеце,
Выводзячы з зарою трактар свой.

Таму да зор дарога — як у полі,
А гэты цягне баразну да зор...
Я на жыццё не скарджуся ніколі,
Калі такая еднасць з даўніх пор.

*1969*

ЗМЕСТ

З кнігі «ПРЫПЯЦЬ» (1973)

### З кнігі «ЯСНАСЦЬ» (1978)

З кнігі «ЛЮБЛЮ!» (1981)

## ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

**Верамейчык У.**

В 31 Клянуся Прыпяццю: Паэзія.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 191 с., [1] л. партр.: іл.

ISBN 5-340-00126-1.

Веремейчик В. Клянусь Припятью: Поэзия.

У кнізе сабраны лепшыя вершы паэта, напісаныя за трыццаць гадоў яго творчай дзейнасці. Усе творы прасякнуты вялікай любоўю да Радзімы, да роднага палескага краю, яго народа. Значнае месца ў кнізе займаюць вершы аб каханні, гэта «вечная» тэма атрымлівае ў паэта своеасаблівыя павароты і вырашэнні.

В $\frac{4702120200-071}{М\ 302(03)-88}$ 126—88 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

*Веремейчик Владимир Михайлович*

**КЛЯНУСЬ ПРИПЯТЬЮ**

*Поэзия*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Верамейчык Уладзімір Міхайлавіч*

**КЛЯНУСЯ ПРЫПЯЦЦЮ**

*Паэзія*

Загадчык рэдакцыі *Г. С. Шупенька.* Рэдактар *Л. Р. Законнікава.* Мастак *Ю. Ц. Цярэшчанка.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна.* Малодшы рэдактар *С. І. Расянчук.* Карэктар *Т. В. Трубач*

ІБ № 3017

Здадзена ў набор 21.09.87. Падп. да друку 24.02.88. АТ 09538. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,74+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 7,82. Ул.-выд. арк. 7,76. Тыраж 4300 экз. Зак. 810. Цана 95 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.